З Равы-Рускай у Дарагуск → 3



ПЕРЕПИСАЛА ХАТУ НА КОТА


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Грабарка → 9




http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

№ 35 (2937) Год LVII

Беласток, 26 жніўня 2012 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Кірыл І у Беластоку

Ганна КАНДРАЦЮК

**— Я шкадую, што сённяшняга дня не дажыў мой бацька, пакойны протаіерэй Ляонцій, — кажа ўзрушаны Мікола Міpановіч, беластоцкі радны і царкоўны харыст. Мой субяседнік сам запрасіўся на хоры ў Свята-Духаўскую царкву, каб тут, разам з народам, вітаць патрыярха Кірыла I, які 18 жніўня наведаў Беласток. Для гэтага заставілі яго свядомасць гістарычнага моманту і духоўна-музычныя традыцыі сям'і. Пра вакальны талент яго бацькі па сённяшні дзень у Беластоку ходзяць легенды. Паслухаць яго бас у праваслаўны сабор заходзілі каталіцкія святары і манашкі, а дваццаць-трыццаць гадоў таму такі жэст у Беластоку лічыўся праявай вялікай экуменіі.**



http://www.patriarchia.ru

— Ды што тут параўноўваць тыя часы з нашымі, — настаўніца і царкоўная харыстка Ірына Троц вялікую ролю ў працэсе экуменіі прыпісвае школе. Успамінае, як напрыканцы васьмідзесятых гадоў ехала са сваім класам аўтобусам. Свята-Духаўская царква была якраз у будове. Калі міналі царкву, двух яе хлопчыкаў перажагналіся. Гэта выклікала смех і кпіны класа. Нехта сказаў, што праваслаўныя жагнаюцца левай рукой. Настаўніца памятае сваю бездапаможнасць: — Я не ведала як павесці сябе ў гэты момант. Баялася, каб яшчэ больш не пакрыўдзіць дзяцей. Праваслаўныя і без гэтага адчувалі сябе горшымі, іх было на цэлы клас толькі трох.

Да прыкрага здарэння ў аўтобусе настаўніца вярнулася ў час выхавацельскіх урокаў. Дзеці з цікавасцю слухалі яе расказы пра іншыя веравызнанні ў Беластоку, ахвотна дзяліліся сваімі назіраннямі.

— Напэўна многа карыснага прынеслі ўрокі рэлігіі ў школе, — кажа настаўніца. — Добра, калі дзеці пазнаюць свае святы, абрады, умеюць абараніць свае перакананні.

У пазітыўную перамену беластачан верыць таксама Пятро Крук. Спадзяецца, што візіт патрыярха яшчэ больш паспрыяе справе яднання хрысціян.

— Я сам вельмі люблю і цаню, калі людзі сустракаюцца, каб гаварыць пра экуменію, — кажа спадар Пятро, палітык, грамадскі дзеяч і царкоўны харыст. — Я з задавальненнем назіраю як у Беластоку мяняюцца адносіны паміж канфесіямі. Хочаце прыклад? Ніколі раней не было ў нашай царкве столькі мяшаных шлюбаў як зараз. А ў сужонстве, ведаеце, без экуменіі ані руш...

* * *

Візіт святейшага патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла I у Польшчу лічыцца гістарычным і першым у гісторыі. 17 жніўня г.г. Кірыл I і старшыня Канферэнцыі польскага епіскапату арцыбіскуп Юзэф Міхалік на Каралеўскім замку ў Варшаве падпісалі зварот Праваслаўнай царквы і Каталіцкага касцёла, які заклікае да польска-расейскага яднання. Гэтая тэма поўнасцю здамінавала ўсе навіны і цягам трох дзён яе асвятлялі ў СМІ ў пазітыўным, поўным спадзявання святле. Маскоўскі патрыярх паказаўся як мудры і абдораны Божай ласкай пастыр, які камунікуе на сучасных хвалях. Яго адважныя выступленні ў абарону хрысціянскіх каштоўнасцей наклікалі прызнанне нават скептычна настроеных палякаў. Разам святкавала і Польская Праваслаўная Царква. А ўжо найбольш радаваліся прыхаджане Свята-Духаўскай парафіі ў Беластоку, якім выпаў гонар вітаць у сваёй царкве саноўніка. Да прыезду прыхаджане рыхтаваліся ў трывожным хваляванні, перажывалі яго як важнае сямейнае здарэнне. Два тыдні да візіту настаяцель айцец Георгій Барэчка заклікаў у час набажэнстваў і прыватных бясед: — *Прыходзьце ўсёй сям'ёй, заклічце сваіх суседзяў і сваякоў. Хто ведае, ці яшчэ раз у жыцці нам пашанцуе пабачыць патрыярха!*



Фота Ганны Кандрацюк

Прапанова наведаць Свята-Духаўскую царкву выйшла ад самога Кірыла I. Пра гэта вырашылі асабістыя сентымент саноўніка. У мінулым, калі ён служыў епіскапам Смаленскім і Калінінградскім, некалькі разоў наведаў Беласточчыну. У тым жа часе пры вялікай ангажаванасці вернікаў будавалася і Свята-Духаўская царква. Манументальны праект пабудовы наклікаў сумнені: ці хопіць для яго людзей? Іншая справа, патрыярх падтрымваў пабудову не толькі маральна. На сустрэчы 18 жніўня ён гаварыў:

— З асаблівым пачуццём ступіў я пад скляпенні храма Святога Духа. Амаль 25 гадоў таму назад я наведаў Беласток і бачыў гэты храм у працэсе пабудовы. Але тое, што адкрылася майму погляду, сведчыць, што за мінулыя гады было зроблена вельмі і вельмі многа. Гэты храм з'яўляецца велічным помнікам веры людзей і іх адданасці сваёй справе, помнікам подзвігу і сімвалам духоўнага адраджэння.

Апошнюю частку прамовы госць прысвяціў праблеме рэлігіі ў жыцці сучаснага чалавека. Узрушаныя прыхаджане — лік сабраных ацэньваецца на пяць-шэсць тысяч, выстойвалі ў бясконцых чэргах, каб атрымаць блаславенства іерарха. Кірыл I падарыў таксама ікону Ціхвінскай Божай Маці. А Беластоцкі і Гданьскі епіскап Іакаў падарыў на памятку сустрэчы ікону мучаніка дзіцяткі Гаўрылы Заблудаўскага, з часткай яго мошчаў. Дар, спадзяюцца іерархі польскай Царквы, павінен спрыяць кантактам паміж польскай і расейскай моладдзю.

* * *

Сустрэча ў Беластоку была прыкмечана СМІ. На набажэнстве ў Свята-Духаўскай царкве з'явіўся каталіцкі арцыбіскуп Эдвард Азароўскі, улады горада і рэгіёна. Шмат пазітыўных эмоцый у каталікоў выклікаў жэст патрыярха, які ўсклаў кветкі да помніка блаславёнага Ежы Папялушкі.

— Можа пасля гэтага візіту нешта і скранецца, — спадзяецца Мікола Міpановіч. І адразу дае агаворку: — *Бо ў цудоўную перамену беластоцкіх каталікаў я не веру. Яны і далей будуць лічыць, што Расія гэта вораг.* А змены патрэбныя. Многія каталікі, з якімі я размаўляю, пазітыўна гаварылі пра візіт.

— Гэта гістарычны візіт, — кажа Анатоль Вап, дырэктар Дэпартамента культуры Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства. — Галоўнае, — адзначае з націскам мой субяседнік, — што Польская Праваслаўная Царква тут у цэнтры. Напэўна адносіны паміж людзьмі будуць лепшымі. У нашым ваяводстве шмат робім для талерантнасці. Аднак, каб змены былі відавочнымі, патрэбны час, трэба каб памяняўся сам чалавек. Бо адной гаворкай нічога не зменіш...

— У маёй працы і сям'і напэўна нічога не зменіцца, — кажа Ірына Троц. — Усё астанецца як было. Я дацаняю ўсе пазітыўныя змены ў Беластоку, ды сама веру ў пашану для іншых нацыянальнасцей і рэлігій. Гэта дазваляе нармальна жыць, гаварыць з суседзямі, сябраваць з каталікамі...

Патрыярх Кірыл I у час сваіх сустрэч з палітыкамі і вернікамі напамінаў пра адзін прызабыты і недацэнены інструмент развіцця чалавецтва ў сучасным свеце. Гэта малітва. Усе бакі, ці ў час сустрэч на дзяржаўным узроўні, ці ў час супольнай малітвы з вернікамі, абдароўвалі сябе іконамі святых. Пры ўсіх станоўчых баках і надзеі на добрую перамену міжканфесійных адносін не знайшлося месца для беларускай мовы ці нашых нацыянальных элементаў, якія самі сабой шмат расказалі б пра асаблівы дух польскага праваслаўя!





# Старыя граблі

Старажытныя часцяком казалі „errare humanum est" — чалавеку ўласціва памыляцца. Але на тое і існуе чалавечая супольнасць, афармленая ў краіны, дзяржаўныя ўтварэнні, каб не паўтараць гэтых памылак, зрабіць з гісторыі высновы, асэнсаваць мінулае, стаць на шлях нармальнага, цывілізаванага, мірнага развіцця. Возьмем, прыкладам, немцаў ці японцаў. У XX стагоддзі яны выбралі і перажылі страшныя рэжымы, якія прывялі іх дзяржавы і нацыі да сапраўдных катастроф. Але пасля гэтага здолелі прайсці шлях катарсісу, ачышчэння, асэнсавання і змаглі выпрацаваць дзяржаўны і народны алгарытм адраджэння, усталяваць наколькі мажліва справядлівае грамадства з высокай ступенню сацыяльнай абароны, мабілізаваць насельнікаў сваіх краін на стваральную працу. І ўрэшце заваяваць павагу многіх краін свету і суседзяў. З Другой сусветнай вайны бальшыня дзяржаў выйшла з цяжкімі стратамі, але ачысцілася ад таталітарнай поскудзі, антычалавечых рэжымаў. І толькі СССР, савецкі народ, які лічыў сябе пераможцам, ніяк не можа скончыць той жахлівай вайны, не можа развітацца з ёй так, як належыць. Здавалася б Гарбачоўская перабудова дала такі ўнікальны шанц. Адчынілася процьма праўды пра мінулае, у тым ліку і пра тую жахлівую вайну. Аднак, нядоўга музыка гучала. Не можа Расія, як асноўная пераемніца СССР, не могуць яе бліжэйшыя суседзі, такія як Украіна, Беларусь, Казахстан, стаць нармальнымі дзяржавамі. Ізноў усяляк імкнуцца, лезуць, пруцца наступіць на старыя граблі аўтарытарызму і прыгнечання чалавека ў розных пачварных формах, ізноў мілітарысцкая рыторыка і пошук ворагаў як звонку, так і сярод сваіх.

Ну, скажыце, хто з беларусаў быў бы супраць геапалітычнага саюза з Расіяй, калі б гэтая супердзяржава (як яна сама сябе пазіцыянуе) сапраўды была хрысціянскай і славянскай!? Асабліва ў варунках сённяшняй рэчаіснасці, дзе амаль паўсвету ўжо пад экспансіяй Кітая. Пакуль толькі эканамічнай, хоць пытанне сапраўднай кітайскай агрэсіі — справа часу. У тых варунках, калі Заходняя Еўропа ўжо перажыла пік сваёй дэмакратыі і даводзіць яе ўжо да абсурду, прапануючы грамадству толькі фальшывыя ідэалы, фетыш прагматызму і субкультуру. У такой сітуацыі здаровы славяна-балцкі кансерватызм Усходняй Еўропы сапраўды быў бы для ўсіх нас вабнай альтэрнатывай. Але ж няма гэтага і блізка ў Расіі. Што імкнецца адрадзіць ці стварыць сённяшняе маскоўскае кіраўніцтва? Нейкі звыродны сімбіёз новай імперыі са старой савецкай мадэллю. І Пуцін падаецца гэткім Мікалаем І з Уладзімірам Леніным у адным аблічы. Нібы і не было ніякіх сумных урокаў гісторыі. Дзе тая славянская ідэя, пра якую так любяць таўчы з пустога ў парожняе нібыта пераканаunion славянафілы? Няўжо яна заключаецца ў тым, каб паняволіць каўказскія народы, ці можа ў тым, каб знішчыць беларускую і ўкраінскую мовы?! І ў тым, каб завалодаць як мага большай тэрыторыяй?! Днямі давялося пачуць, як нават такі, здавалася, разумны філосаф, як Ігар Чубайс (паходжаннем, дарэчы, з Беларусі) у адной перадачы выказаўся пра тое, што Расія можа адрадзіцца як вялікая краіна толькі пры захаванні сваёй вялізнай тэрыторыі. Ізноў тыя ж старыя граблі!

І дзе тая высокая місія Расійскай Праваслаўнай Царквы, да якой яна нібыта пакліканая? Няўжо яна ў тым, каб стаць прыдаткам дзяржаўнай сістэмы і шавіністычнай ідэалогіі? Ці ў тым, каб стаць магутнай і разгалінаванай гаспадарчай структурай? Ці ў тым, каб стварыць новую інквізіцыю і засадзіць маладзенькіх дурніц у турму за недарэчны атэістычны выбрык? І нават не столькі атэістычны, колькі антыпуцінскі. Канешне, такія фактары не могуць аб'яднаць ні расійскую нацыю, ні тым больш прывабіць суседнія народы. І што далей? Ізноў тупая і агрэсіўная, знішчальная сіла. Нібыта крывавага XX стагоддзя ім было мала? Ізноў гэтыя імперскія граблі. Але, вядома, што калі наступаць на тыя ж граблі, яны б'юць толькі па ілбе. І ніяк не дабаўляюць розуму.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Клякса з атраманту

Калі параўнаць Беларусь да чарніліцы, дык дзіўная гэта чарніліца, бо хаця напоўненая па корак, усё ж не атрамантам... Чаму? А вось аб гэтым ніжэй.

Чарніліца, калі б хтосьці з маладзейшых чытачоў не ведаў, гэта шкляная пасудзіна, у якой захоўваецца выключна атрамант. Чарніліцы выраблялі таксама з мармуру ці нават серабра. Затое Ленін ляпіў іх з хлеба. Ды аб гэтым пасля. У чарніліцу акуналі дзюбку пяра — у мой школьны час сталёвага, і таму звалі яго „сталёўкай" — апускалі ў атрамант і... пачыналася галгофа. Бо, бывала, нецярплівая рука замоцна націснула сталёўку і адразу вылівалася з-пад яе атрамантная клякса. Для шмат каго з вучняў была гэта сапраўдная бяда. За атрамантнай плямай ішлі пакаранні. За маіх школьных часоў за кляксу ў сшытку можна было спадзявацца або тузання за вушы, цягання за коскі каля вушэй або лупленя драўлянай лінейкай па далонях. Таму я кляксы зненавідзеў, можа роўна глыбока, як прыгонныя мужыкі панскі бізун. Асабліва пасля аднаго непрыемнага здарэння. Яго драму можна параўнаць толькі да фіктыўнай (на жаль) сітуацыі, калі Ленін спазняецца на цягнік, на якім у сапраўднасці выехаў з Берліна, ды скажам, што не выехаў, што не вярнуўся ў Петраград, што з „Аўроры" не грымнулі гарматныя залпы, ані што жменя п'янай жульні не здабыла пакінутага Зімняга палаца. Якая была б тады гісторыя? Гэтага якраз не ведаем, што паказвае на маштаб драмы, якую я спазнаў па прычыне звычайнай кляксы. Вось заблыталася яна выпадкова паміж літаркі, якія я працавіта вывеў на лістку вырваным са сшытка. Меў быць гэта заклік да ўсіх пакрыўджаных вучняў — і тых з надарванымі вушамі, і гэтых з парадзелымі коскамі, і гэтых з пасінелымі лапкамі — каб аб'ядналіся ў слушным гневе. Ды дзе ж там! Тая клякса, быццам празмерна пабуджаны тараканам з сіндромам дэфіцыту ўвагі і гіперактыўнасці адразу разбеглася па ўсім тэксце, зацягваючы яго смелыя ідэі сіняй заслонай. Такім чынам знішчожанай стала мая рэвалюцыйная думка, якую ў ім я змясціў, што падарву ўсіх прыгнечаных вучняў да змагання з настаўніцкім дэспатызмам. Эх, ці мо і я спазніўся на цягнік?

Затое калі гаворка пра Леніна, дык ляпіў ён тыя хлебныя чарніліцы ад нудотнасці, калі сядзеў у царскай турме. Было гэта, аднак, далёка да таго часу, калі ён выязджаў у Берлін. А што нудзіўся ў сваёй камеры страшэнна, дык чарніліц, а пры нагодзе і векапомных ідэй, наляпіў ён процьму. Толькі што ўзнікла праблема, што з імі рабіць. Хлебныя чарніліцы, як хлеб, вядома, можна было з'есці. А што з ідэямі? Ці ўсе яны былі ўежныя? Тая няўпэўненасць здалася аўтару не да стрывання, таму пачаў іх пераносіць на паперу паводле думкі, што папера ўсё пераняесе. І так запаскудзіў імі шмат-шмат лістоў, і калі перакінуў іх за турэмны мур, яшчэ больш запаскудзіў чалавечых розумаў — найчасцей рабочых і сялян. А тыя, як малапісьменныя, да таго часу абарочвалі ў сваіх спрацаваных пальцах ленінскія пісьмёны, пакуль да чагосьці ў іх не дачыталіся. Невядома да чаго, таму што Ленін прымяняў да пісання нябачны атрамант, канкрэтна малако, якое пасля таго як высахла не пакідала на паперы бачнага следу. Толькі калі падагрэць ліст паперы спадсподу, наступала карамелізацыя змешчанага ў малацэ казеіну і праспечваўся схаваны тэкст. Не думаю, што аб гэтым ведалі рабочыя і сяляне. Не разабраліся ў гэтай штучцы турэмныя назіральнікі. Але ж Ленін перад імі пільнаваўся. Пачуўшы іхнія крокі, заўжды своечасова глытаў хлебную чарніліцу напоўненую малаком, якая была ж доказам вядзення злачыннай творчай дзейнасці. Аднойчы гэта здарылася аж шэсць разоў. Колькі раз назіральнікі заглядвалі ў камеру, столькі раз бачылі Леніна нахіленага над пустым лістом. Мы сёння ведаем, што ліст пусты не быў. Пустымі аказаліся ягоныя ідэі. Хаця да сёння ёсць такія, што адграбаюць іх з рэвалюцыйных запалам. Напрыклад, такі Лукашэнка: што скажа — тое абяцае, што зробіць — тое падумае, што выпусціць — тое зловіць. А то арыштуе плюшавыя цацкі, а то забароніць збор брусніцы, бо хоць тая ўжо перасплявае, дык у папярэднія гады толькі даспявала ў гэтую пару года — дык няхай яна трымаецца графіка! І гэтак далей, і да гэтага падобнае... Можна такіх прыкладаў прывесці мноства, ды на такія плямы шкода паперы. Шкода таксама беларускай чарніліцы... для такой вялікай кляксы, што запаўняе яе з берагамі. Вось і ўсё.

Міраслаў ГРЫКА

**Вачыма еўрапейца**

# Пасол на пераходах



Пасол Польшчы ў Мінску Лешак Шарэпка па ўласнай ініцыятыве (не Міністэрства замежных спраў) у першыя дні другой палавы жніўня два дні наведваў польска-беларускія пагранпераходы. У час кароткай прэс-канферэнцыі ў Баброўніках спадарожнічаючы яму падляшскі ваявода Мацей Жыўна заявіў:

— Для нас вельмі важнае, калі наш прадстаўнік урада на баку Беларусі мае нагоду пазнаёміцца са становішчам на пагранпераходах, таму што здараюцца сітуацыі, у якіх часам нас абвінавачваюць, або паяўляюцца памылковыя інфармацыі наконт таго, што адбываецца на пагранпераходах на польскім баку.

Успамінаючы аб візітаваных паслом Шарэпкам пераходах, пералічыў Ліпшчаны-Сафіева. Меў быць там абслугоўваны таварны рух (да 3,5 тоны), пасажырскі рух і аўтобусы. Працы па стварэнні пагранперахода працягваюцца з 1999 года. У 2008 г. польскі бок перадаў адпаведную дыпламатычную ноту на гэты конт. Ад тае пары справа затармазілася. У Баброўніках ваявода адзначыў:

— Адносна Ліпшчан, дык няма зацікаўлення беларускага боку.

Лешак Шарэпка, падводзячы вынікі памежнага аб'езду, адзначыў:

— Тут крыху горш, чым я думаў. Палітычная сітуацыя ёсць такая якая ёсць, не трэба тлумачыць. Не спрыяе размовам з беларускім бокам на тэму памежнай інфраструктуры. Мы заўжды казалі, што пытанні памежнай інфраструктуры хочам крыху дэпалітызаваць. Будзем ісці ў гэтым напрамку.

Спаслаўся на адмоўную медыйную кампанію ў Беларусі:

— Наконт пагранпераходаў, як і працы нашых консульстваў вядзецца палітыка, якая мае паказаць нас у дрэнным святле. Не гаворыца аб тым, што нашы консульствы летась выдалі трыста тысяч віз і мы ў Беларусі маем найбольш спраўныя консульскія ўстановы адносна гэтага, з ліку ўсіх еўрасаюзных установаў мы найбольш аблажаныя. Паказваюць толькі чэргі перад консульствамі. Не кажуць аб тым, што надалей маем ба'рер з беларускага боку на павелічэнне ліку консулаў (напр. у консульстве РП у Гродне патрэбныя сама меней тры новыя консульскія пасады — М. Х.). Таксама тут, на мяжы. Паказваюць чэргі, але не гавораць аб зразумелых іх прычынах: няма сапраўднага дыялогу, каб гэтыя праблемы вырашыць.

А як па польскім баку? У Баброўніках (плошча пагранперахода 7,5 гектара) маглі б быць адпраўлены ў суткі 300 легкавых машын і 500 грузавых. Аднак, каб быў палепшаны памежны кантроль, неабходнай з'яўляецца пабудова другога моста на рацэ Свіслачы. Гэтая інвестыцыя плануецца Генеральнай дырэкцыяй краёвых дарог і аўтастрад пасля 2012 г. Калі дакладна, невядома. Іншы пагранпераход, які наведаў пасол Шарэпка — чыгуначны (для таварнага руху) у Семяноўцы, надалей не выконвае г.зв. асноўных функцый для выконвання мытнага кантролю. Пабудова гэтага пагранперахода (3,5 га) мае працягвацца да лістапада 2013 года. Сваіх функцый надалей не выконвае пераход Рудаўка-Лясная, які пусцілі ў рух у красавіку 2005 года, з інфраструктурай на беларускім баку (у 2008 г. на польскім), прызначаны для пасажырскага руху і — як кажуць на чыноўніцкай гаворцы — пры выкарыстанні сродкаў воднага транспарту, які знаходзіцца ў асабістым валоданні з выключэннем тавараў. Надалей, незалежна ад абяцанняў, няма там магчымасці афармляць пешы і веласіпедны рух ды рэйсы на пасажырскіх і круізных суднах. На іншым пагранпераходзе Полаўцы-Пяшчатка працягваюцца напружаныя працы над яго мадэрнізацыяй, якія маюць быць закончаны ў другім паўгоддзі 2014 года. Так вось, калі гаворка пра г.зв. прачыстку польска-беларускіх пагранпераходаў, рабіць ёсць шмат што. Таксама і на польскім баку. А што можа зрабіць пасол РП у Мінску з высновамі, да якіх дайшоў пасля візіту на пагранпераходах? Сам адказаў на гэтае пытанне ў час прэс-канферэнцыі:

— Магу не вельмі шмат. Можна толькі саставіць нататку ў МЗС і апісаць тое, што ўбачыў.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# З Равы-Рускай у Дарагуск

Яўген ВАПА

Здаўна мяне цягнула на Заходнюю Украіну. Дзякуючы сяброўскай падтрымцы, апынуўся я на ўкраінскім пагранпераходзе ў Раве-Рускай і, пабачыўшы даўжыню чэргаў, адчуў сябе як дома ў Кузніцы ці Баброўніках. „Які ніц пятнаццаць-дваццаць гадзін чакання", — уласнік цёмнашэрай украінскай легкавушкі не меў аніякіх ілюзій. І я таксама. Заставалася дзейнічаць па спрацаваным варыянце з беларускай мяжы. Па-першае, то з пашанай і павагай усміхайся да польскага памежніка, каб той важнасцю свайго мундзіра дапамог падсесціся да першай машыны перад шлагбаўмам. Памежнік, пабачыўшы валацугу з заплечнікам, у якім напэўна не было кантрабанднага мяса, заявіў добрую навіну пра ўкраінскі аўтобус, які яшчэ знаходзіцца ў польскай зоне ўплываў. Міласцівы Усявышні чарговы раз, відаць, дараваў мне грахі.




У аўтобусе апрача двух шафёраў была толькі адна пасажырка, якая са здзіўленнем адказвала на мае наіўныя пытанні, звязаныя з няведаннем рэалій украінскай мяжы. Украінская мытня, можна сказаць умоўна, поўнасцю „прыхватызаваная". Дзяржаўнай з'яўляецца толькі вопратка галоўных герояў мытні. Калісьці беларускія кантрабандысты снілі, каб прыватызаваць для сябе хаця б паўметра польска-беларускай мяжы, праз якія можна было б перапраўляць скрынкі з гарэлкай. А тут што атрымалася? Не кантрабандысты, а мытнікі, не паўметра толькі кіламетры пераходаў трымаюць у прыватных руках. Таму кожны ўкраінец ад малога да старога марыць стаць мытнікам і памежнікам, бо тады ўкраінскія грыўны самі лезуць у кішэню. Усе кантрабандысты іх ненавідзяць, бо гэта з іхніх кішэняў знікаюць грошы. Мянушкі мытнікаў, якія ўдалося мне потым засвоіць ад кантрабандыстаў з Ковеля, то, напрыклад, „Эсэсаўка", „Гестапавец", „Жырафа", „Бугай", „Цырульнік". Імёны са свету жывёл і паскудаў — самыя далікатныя назвы. А страх перад мытнікамі дзвюх дзяржаў найлепей расслабіць, распіўшы бутэльку гарэлачкі ў жаночай кампаніі. Па сто грам на душу пад смакавітае сала, памідоры і перац. „Эх, дзяўчаты", — саракапяцігадовая Руслана пасля прыняцця сваёй дозы ў маім паваротным, кантрабандным ковельскім аўтобусе раптам размарылася. „П'ем мы гарэлку, віно, піва. Усё мяшаем. Галава трашчыць, валасы дыбам становяцца. А давайце каб так як алігархі, што пэўна п'юць толькі гарэлку, або толькі піва ці толькі каньяк. О, каб так пажыць". Гэта былі адзіныя пазітыўныя словы пра ўкраінскіх алігархаў, якія мне ўдалося пачуць цягам паездкі. Іншыя выказванні пачыналіся з літары „х", прычым не ідзе мова пра слова „хамула".

Распачалося назіранне праз акно ўкраінскай зямелькі, якая беларускім сялянам з пясчана-балоцістых участкаў мроілася сваім багаццем і пладавітасцю. „Дзе не плюнеш і кінеш ядро, усюды ўсё вырасце", — памятаю з дзяцінства бясконцыя расказы вясковых старажылаў, якія сваімі нагамі завандравалі на Украіну ў час бежанства. Каб яны зараз падняліся з магіл і пабачылі неапрацаваныя палі, якія зарастаюць бур'яном і самасейным лесам, то не паверылі б, дзе знаходзяцца. Вялікія прасторы ў ваколіцах Львова ці за Ковелем у бок мяжы пустуюць і смуткуюць за гаспадаром, які б дагледзеў зямельку-карміцельку. Мой сялянскі радавод у гэты момант узняўся вышэй за турыстычнае любаванне незвычайнымі краявідамі. У мільённым Львове не здолела пратрываць крызісу пачатку 1990-х гадоў адзіная малачарня, якая праваліласе дашчэнту. Там, дзякуючы шалёнаму таксісту, давялося мне пабачыць другі Львоў, дзе поўна кварталаў з разбуранымі прадпрыемствамі, у руінах якіх селяцца бамжы і, каб выжыць, вырываюць метал, выпальваюць усё драўлянае. Шалёны таксіст хацеў на мне адыграць тое, што ў час Еўра-2012 не аб'ягорыў занадта замежнікаў, таму што дзяжурыў ён на чыгуначным вакзале, а замежныя фанаты занадта цягнікамі не карысталіся. Таксісты з лётнішча проста не дапусцілі яго на сваю тэрыторыю. На львоўскім чыгуначным вакзале здзейснілася яшчэ адна мая мара — на ўваходных дзвярах пабачыў сапраўдную рэкламу сала ў шакаладзе. Каштаванне абавязкова зраблю наступным разам. Таму, рвануўшы даганяць аўтобус у Ковель, на які я спазніўся, на выездзе таксіст проста накрычаў на міліцыянта, які нас затрымаў. Выглядала гэта так: „Ну, не махай гэтай дубінкай. Не маю часу. Што хочаш, грошы хочаш, не маю, хутка. Людзей вязу б..., даганяю аўтобус". Той здурнеў і разгубіўся — быў прайграны з першай хвіліны. Усю далейшую дарогу маэстра руля і гандлю пераконваў мяне да залатога інтарэсу, які павінен я з ім зрабіць. Будзе мне выгадней і танней, каб не памяняць таксі на аўтобус, тым самым пераплаціўшы ў пятнаццаць разоў цану маршруткі. Гэта быў для мяне добры ўрок аператыўнасці і ўмеласці львоўскіх мужчын. У Львове таксама я зразумеў, што абазначае чаканне грыўны і колькі каштуе інфармацыя. У гатэлі, у які я хацеў засяліцца (назвы яго не скажу), запытаўся ці можа маюць яны распіску цягнікоў і аўтобусаў. Не мелі. На маю просьбу ці можа яна пазваніць і даведацца, прагучэў адказ: не можа. Прытым жанчына спакойна глядзела і чакала на тры мае словы: то я заплачу. Не заплаціў і пазнаёміўся з шалёным таксістам.

Паміж Львовам а Уладзімірам-Валынскім знаходзіцца горад шахцёраў Чырвонагорад (Червоноград), побач якога цячэ рэчка... Беласток. Шмат разоў раней прыходзілася мне пабываць на Сілезіі, дзе закрытыя шахты пакідаюць незабыўныя ўражанні. Але вобраз постындустрыяльнага ўкраінскага горада выклікае звычайна адчай. Можа пахмурнае надвор'е і праліўны дождж падбівалі невясёлыя эмоцыі, але вобраз некалькіх стоячых у полі шматпавярховых жыллёвых дамоў з абарванымі, вісячымі яшчэ балконамі, з разбітымі вокнамі, павырыванымі дзвярамі, побач з размаляваным у неверагодна ружовыя колеры домам рытуальных паслуг заняў у мяне дыханне і яшчэ мацней уціснуў у сядушку. З вялікім сумам мае ўкраінскія суразмоўцы паўтаралі толькі пра тры сектары сённяшняй Заходняй Украіны, якія развіваюцца: бары, у якіх прапіваюць грошы, аптэкі, у якіх штораз больш хворых людзей аддае апошнія грошы і дамы рытуальных паслуг, дзе прыходзяць на апошняе развітанне, бо людзі мруць як мухі. Беспрацоўе, бесперспектыўнасць, бяда. Кожны сустрэты ўкраінец, калі даведваўся, што я з Беластока, адразу прасіў дапамагчы яму або родным знайсці працу. Працы няма ў горадзе і вёсцы. Таму людзі едуць за працай перш за ўсё ў Польшчу, Чэхію, Расію, Іспанію і Партугалію. Яшчэ кантрабанда і гандаль дзень і ноч усім і ўсюды. Людзі, што працуюць за мяжой, усе грошы стараюцца ўкладваць у пабудову новых дамоў і рамонт кватэр. На шчасце ёсць яшчэ вялікія вёскі і зямля, якая корміць з невялікіх участкаў, якія можна апрацоўваць уласнымі рукамі, бо катастрафічна не хапае сельскай тэхнікі. Задарагая яна. Сілай грамадства, і то відавочнае, ёсць жывыя і вялікія вёскі, шматдзетныя сем'і, таксама ў гарадах, поўныя цэрквы і касцёлы ў час багаслужбаў. І самае галоўнае — паўсюдная, жывая ўкраінская мова паміж людзьмі і ва ўкраінскіх медыях ды ў культуры. На сваім шляху з Равы-Рускай у Дарагуск я цешыўся іхнім духам украінскасці, сумаваў адразу, калі ўзгадваў пра стан беларускасці ў Беларусі. Можа быць бедна, але ўсё пераможацца, калі ёсць цвёрды нацыянальны і моўны касцяк. У Львове паўсюдна відаць надпісы „толькі адна дзяржаўная мова" на плакатах, лістоўках. Акцыя мае нізавы грамадскі характар, бо хтосьці вешае каляровы плакат, другі чорна-белы, іншы робіць расцяжку. Хто колькі грошай мае, то і выкладвае. Хаця парламенцкія выбары чакаюць Украіну ў канцы кастрычніка, то зараз ужо з'яўляюцца білбарды і людзі пачынаюць спрачацца наконт сваёй будучыні. Пераходзячы перад адным з касцёлаў, на ранішняй імшы дайшлі да мяне праз гукаўзмацняльнік словы святара ў казані пра важнасць выбараў і адказнасць выбаршчыкаў і патрэбу ў іх удзельнічаць. Улада відавочна стараецца падагравадь настрой стомленасці і запалохання палітычнай апазіцыі. Хоча знізіць выбарчую яўку. „Няма на каго галасаваць", — так маюць думаць выбаршчыкі і, калі пойдуць у апошні момант, то маюць аддаць голас для Партыі рэгіёнаў. „Разом нас богато, нас не подолати", — увесь час гучалі за мною словы з аранжавай рэвалюцыі. Не будзе лёгка Януковічу паўтарыць манеўры Аляксандра Рыгоравіча.

Роздумы марнатраўнага сялянскага сына былі б можа і больш паглыбленымі, але не дазвалялі на гэта разбітыя ўкраінскія дарогі, па якіх, складаецца ўражанне, безупынна ездзяць танкі, а не легкавушкі. Сцвярджаю гэта з упэўненасцю былога танкіста, якому было дадзена паўгода таўчыся танкамі па падобных дарогах. Можа і таму прадбачлівыя ўкраінцы не надта купляюць новыя мадэлі машын, а большы давер аддаюць легендарным „ладам"-сямёркам і іншым маркам усходняй прадукцыі. Аднак героямі ўкраінскіх дарог у маіх вачах з першага дня і так засталіся шафёры маршрутак, якімі падарожнічае большасць украінцаў. Іхнія ўмеласці ездзіць у такіх умовах нагадваюць легендарных вадзіцеляў часоў вайны з песні „Эх, путь-дорожка фронтовая! Не страшна нам бомбёжка любая". І таму сіла, фантазія і дальнабачнасць патрэбныя тут назарэз. На такой менавіта дарожцы за Уладзімірам-Валынскім затрымала нас другая маршрутка, якая зламалася ад тых усіх бед. І раптам у адной машыне апынуліся людзі з дзвюх маршрутак. Гаварыць пра камфорт ці патрабаванні бяспекі, адносна колькасці пасажыраў — забудзь і запі вадою. Вось перада мною ўзгадаліся дакументальныя кінакадры з падарожжаў па Індыі ці Паўднёвай Амерыцы. Вачыма ўяўлення хацелася раптам пачуць яшчэ голас пеўніка ці куркі. Але нічога такога. Затое прыперлі мяне да суседкі дзве жанчыны, якія з клункамі справядліва дацiснулі ўсіх да сябе, знайшоўшы месца для сваіх не зусім мадэльных вымярэнняў жаночага цела. Але ўкраінскія людзі сімпатычныя і хутка між намі пайшлі размовы. Жанчыны ўкладалі брусчатку на... птушкаферме і з гордасцю заявілі, што з працай справіліся значна лепей і хутчэй за мужчын. А ўласнік добра заплаціў і даў яшчэ падарункі — у той момант жанчына ўказала вачыма на адну з сумак. А там... аскубаныя курыцы. Меў я свае ўяўленыя жывёлы! Але не меншую цікавасць выклікала ўва мне сістэма продажу — хацелася б сказаць і напісаць — білетаў. Справа ў тым, што ўвогуле ў аўтобусах няма аніякіх білетаў і падатковых апаратаў. Шафёр-бізнесовец, проста глянуўшы на цябе, гаворыць цану, якую ты плаціш за язду. Прытым з вялікім любаваннем выцягвае з кішэні вялікую кіпу грошай, якія ледзь месцяцца ў далоні і паказвае эфекты сваёй працы. На аўтобусным вакзале ў Ковелі я з гадзіну часу любаваўся важнасцю шафёраў перад самімі сабою, а яшчэ большай перад пасажырамі.Там таксама зразумеў яшчэ адноснасць і ўмоўнасць грошай і інфармацыі. На зваротным шляху ў Польшчу маршрутны аўтобус Ковель — Холм — Люблін — Варшава едзе праз польскі пагранпераход у Дарагуску. Я папрасіў квіткі да Холма. Касірша спакойна мне сказала, што прадае толькі ў Люблін, бо ён толькі ўведзены ў камп'ютар, але магу сысці ў Холме, аднак плаціць трэба да Любліна. На маё дурное пытанне колькі часу буду ехаць, пачуўся адказ: „Запытайцеся ў кантрабандыстаў і мытнікаў". Дзве мытні аўтобус пераадолеў толькі за шэсць гадзін. Чакаў мяне Люблін.

## Закалот вакол чырвонай скрынкі

Польская пошта ліквідуе свае паштовыя чырвоныя скрынкі ў тых мясцовасцях, дзе пражывае менш за трыста асоб па той прычыне, што дорага абыходзіцца іх утрыманне. А гэта абазначае, што прападуць яны амаль па ўсіх вёсках краіны. Аргументацыя паштавікоў гэта хлусня. Такую скрынку можна начапіць на плоце, на аўтобусным прыпынку, на дошцы аб'яў, а пісьманосец, праязджаючы цераз вёску, спыніўся б, адчыніў бы скрынку і ўзяў бы яе змесціва. Паводле мяне, Польская пошта не дбае пра тое, каб у вёскі даставіць больш газет і павысіць асвету ды культуру.

Тут трэба вярнуцца да першай паловы XX стагоддзя, а канкрэтна да 1944-1945 гадоў, калі наша дзяржава была вызвалена ад акупацыі; мне тады было адзінаццаць гадоў. Калі арганізавалася народная ўлада, парабілі тады драўляныя скрынкі накшталт школьных сумак, у якіх тады моладзь насіла кніжкі і сшыткі. У нашай вёсцы Бялкі, што ў Нарваўскай гміне, была такая скрынка колеру светлага арэха, якую замыкалі на замок. Адзін ключ ад яе быў у солтыса, другі ў Гміннай управе, а трэці ў паштовым офісе ў гміннай мясцовасці. Былі вызначаны дні, калі сяляне аддавалі пісьмы солтысу, ён клаў іх у тую сумку і па чарзе вызначаў асобу, якая ішла з сумкай у гмінную мясцовасць. Там скрынку адкрывалі і забіралі тое, што было туды адрасавана і зноў замыкалі яе. Пасля тая асоба ішла на пошту, а там зноў адкрывалі скрынку, забіралі пісьмы, у скрынку клалі тое, што было ў вёску і скрынку замыкалі. Калі асоба са скрынкай вярталася да солтыса, ён яе адкрываў і правяраў што там ёсць. Калі былі звычайныя пісьмы, ён даручаў іх той асобе, каб яна занесла іх адрасату, а калі пасылка была заказная, то солтыс сам даручаў яе, бо адрасату трэба было распісацца, што прыняў заказное пісьмо.

Потым з нарваўскай пошты пачалі хадзіць пісьманосцы, пешшу. Першым такім пісьманосцам быў у нас Пятро Гуралеўскі — няхай зямля яму будзе пухам. Пасля пісьманосцам далі службовыя ровары, а яны на іх вазілі цяжкія сумкі з газетамі, бо тады падпісчыкі газет былі амаль у кожнай хаце. Потым пісьманосцы сталі карыстацца матаролерамі і матацыкламі. Пасля паштовых офісаў стала больш, у тадышняй Нарваўскай гміне ўзніклі яны ў Ласінцы, Трасцянцы, Янове і Кленіках.

Цяпер, пры рыначнай эканоміцы галоўныя ўлады Польскай пошты дайшлі да вываду, што складана ўтрымаць малыя паштовыя аддзяленні і паліквідавалі іх, пакідаючы толькі ў гмінных мясцовасцях. А пісьманосец мусіць цяпер мець легкавушку, бо яму ўзбуйнілі тэрыторыю для абслугоўвання, напрыклад, раней на пошце ў Трасцянцы працавалі два пісьманосцы, а цяпер усю гэтую тэрыторыю абслугоўвае толькі адзін, які зараз з'яўляецца не толькі пісьманосцам, але і прадаўцом, бо пры поштах патварылі крамы.

Цікава мне, ці кіраўніцтва Польскай пошты праводзіла з пісьманосцамі апытанне, ці ім, праязджаючы праз вёску, было б цяжка спыніцца каля чырвонай скрынкі, адкрыць яе і замкнуць. Цяпер па вёсках Усходняй сцяны астаюцца пераважна пенсіянеры; ім складана сядзець і чакаць пісьманосца, каб перадаць нейкую пасылку. Ці можа Польская пошта хоча зраўнаваць вёску не з горадам, а з зямлёй, каб паліквідаваць пісьманосцаў і перайсці на скрынкі, як было ў нашай дзяржаве пасля Другой сусветнай вайны.

Я, калі хачу выслаць пісьмо, мушу яго нарыхтаваць пад чацвер. Тады пісьманосец як не ў чацвер, то ў пятніцу прынясе тыднёвік „Ніву” і я яму тады аддам нарыхтаванае пісьмо.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**



Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Свята ў Камені

Беларускі фэст у рамках праекта «І там жывуць людзі», арганізаваны 5 жніўня ў Камені Чыжоўскай гміны, паказаў, што беларускія мерапрыемствы патрэбныя ў вёсках, дзе даўно не ладзіліся культурныя імпрэзы. Хаця ў Камені мала маладых людзей, а тым болей дзетак у школьным узросце, на беларускі фэст прыбылі маладыя выхадцы з гэтага сяла з дзяцьмі і людзі з суседніх вёсак. Старэйшыя вяскоўцы прыходзілі раней і займалі месца на лаўках побач будынка былой школы, які быў прыстасаваны на вясковую святліцу. Музычны рэпертуар фэсту падабраны быў пад густ публікі. Старэйшым асобам было цікава паглядзець свае калектывы з Чыжоўскай гміны: «Чыжавян», «Збучанак» і «Незабудак» з суседняга ад Каменя Курашава. Спявалі яны між іншым фалькорныя песні, якія найстарэйшыя жыхары Каменя памятаюць яшчэ з маладасці, з вясельных і хрысцінных застолляў. Апрацаваныя народныя песні выступіўшых на фэсце «Цаглінак» з Ляўкова таксама выклікалі ўспаміны.

— Беларускі фэст гэта вялікае свята і адпачынак ад штодзённых праблем. Я не памятаю, каб калі-небудзь быў у нас музычны фэст. Хіба ніколі раней не было ў нас вялікага кульурнага мерапрыемства. Нашыя людзі весяліліся толькі ў час вяселляў і вясковых забаваў. Мы вельмі рады, што наш войт Юры Васілюк, Беларускі музей і Гмінны асяродак культуры наладзілі беларускі фэст у Камені. Нашыя людзі ўспрынялі гэтую ініцыятыву як пашану для вёскі, якая апошнім часам моцна пусцее. Многа выхадцаў прыехала на радзіму і адпачываюць, слухаючы нашыя песні. Аднак я бачу і незнаёмых людзей, прыехалі госці з Нямеччыны, — заявіла старшыня Рады Чыжоўскай гміны Хрысціня Гаўрылюк, якая раней была шматгадовым солтысам Каменя, а зараз спявае ў «Чыжавянах».

— Мы з уласных сродкаў адрамантавалі святліцу ў Камені, бо цяжка разлічваць на вонкавыя грошы з праектаў на ўсе святліцы ў гміне. Наша мара — ажывіць прыгожа адрамантаваныя вясковыя святліцы ў гміне. Будзем выступаць за сродкі на рэалізацыю ў іх культурных праектаў, напрыклад, на майстар-класы па рукадзеллю, сустрэчы з цікавымі людзьмі ці занятк і па мастацтве. Задача гмінных структур — рэалізаваць культурныя ініцыятывы ў сёлах, так як цяпер у Камені, калі супольна з Беларускім музеем з Гайнаўкі наладзілі мы беларускі фэст, — сказаў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк.

У час беларускага фэсту выступілі яшчэ вакальна-інструментальныя калектывы з беларускімі эстраднымі песнямі — «Дэкада Бэнд» і «Казка» з Беластока, «Шарыён» з Гайнаўкі, «Нарва» і «Арт-Пронар» з Нарвы.

— Выступіць на фэсце запрапанавалі нам працаўнікі Гміннай управы ў Чыжах. А мы запрапанавалі запрасіць калектыў «Казка» з Беластока, з якім мы супрацоўнічаем, — заявіў член гайнаўскага «Шарыёна». — Мы ў гэтым складзе дзейнічаем ад двух гадоў і спяваем галоўным чынам на вяселлях, забавах, а таксама на фэстах.

— А мы дзейнічаем ужо больш часу.

Апошнім часам выступаем у галоўным на фэстах, — дабавіла ўдзельніца беластоцкай «Казкі».

У час канцэрта эстрадных гуртоў дзеткі пачалі танцаваць. Моладзь, якая прыехала з суседніх мясцовасцей, чакала ажно сцямнее і пачнецца вясковая забава. Хаця сабраныя былі засяроджаны на музыцы і выступах, былі асобы, якія цікавіліся беларускімі літаратурнымі і музычнымі выданнямі, якія прадаваліся працаўнікамі Беларускага музея.

— У Камені вельмі добра відаць, што апраўдалася нашая ідэя арганізаваць фэсты ў вёсках, дзе здаўна не ладзіліся культурныя мерапрыемствы. У такіх мясцовасцях часта збіраецца многа людзей. Мы будзем прапанаваць публіцы конкурс, а асобы, якія правільна адкажуць на пытанні, атрымаюць узнагароды. Сёння прапануем таксама купляць майкі з рысункамі нашага беларускага мастака Міраслава Здрайкоўскага, — сказаў дырэктар Беларускага музея Тамаш Ціханюк.

— Тут вельмі сяброўская атмасфера, выступаючыя маюць добры кантакт з публікай, — заявіў музычны кіраўнік «Цаглінак» Мікола Мяжэнны.

Цяпер жыхары Каменя спатыкаюцца на лавачках не толькі падчас святкаванняў, але і ў будныя дні, бо толькі адзінкі абрабляюць яшчэ поле.

— Камень пасля вайны быў шматлюднай вёскай. Амаль у кожнай сям'і было многа дзетак. Асабліва многа было тут дзяўчат. Прыязджалі да іх хлопцы з цэлага наваколля і сваталіся. У мінулым не было моды ставіць лавачкі перад платамі. Моладзь сядала на прыдарожных камянях і спявала. Хаця ў Камені людзі жылі бядней, то былі шчырымі і гасціннымі, а і дзяўчаты былі наогул добрымі жонкамі, — расказвала Ніна Грыгарук з курашаўскіх «Незабудак».

Едучы ў Камень на палях было відаць вельмі мала збожжа, з якім мясцовыя жыхары паспелі справіцца яшчэ да фэсту.

— У нашым сяле ёсць толькі адзін праўдзівы гаспадар, які абрабляе поле і гадуе кароў. Многа хат у нашай вёсцы пустуе, а ў многіх жывуць старэнькія пенсіянеры. Аднак дзеці і гарадскія спадкаемцы наогул не прадаюць яшчэ пустуючых дамоў, толькі прыязджаюць сюды летам, абкошваюць панадворкі і наводзяць парадак на іх. Месца скупкі малака закрылі і таму амаль спынілася гадоўля кароў, — стала расказваць Хрысціня Гаўрылюк. — Вельмі добра, што 5 гадоў таму войт вырашыў адрамантаваць вясковую святліцу. Сёлета раманталіся ўжо толькі падлогі. Аднак штодзень святліца пустуе, бо ў нас амаль няма маладых людзей. Ёсць толькі 2 дзетак у школьным узросце і 2 юнакоў. Апошнім часам адбыліся ў нас толькі адно вяселле і адны хрысціны, а пахаваць адбываюцца тут даволі часта.




«Незабудкі» з суседняга Курашава

Летам, у час канікул, на аўтобусе можна выбрацца з Каменя ў Гайнаўку і вярнуцца назад толькі па серадах. Штодзень праз сяло ездзіць аўтобус з Гайнаўкі ў Беласток, але вяртаецца ўжо праз суседнія вёскі і таму старэйшым людзям складана дабрацца, напрыклад, да лекара. Аднак з пачаткам школьнага года аўтобус пачне курсіраваць у Гайнаўку штодзённа.

— Мы яшчэ вучыліся ў гэтай школе, а пасля яна пуставала. Цяпер тут вясковы клуб, ёсць месца на жалобны стол, — сказала спадарыня Анна, якая цяпер жыве паміж Каменем, Гайнаўкай і Беластокам. Такіх выхадцаў з Каменя, што прыбылі на беларускі фэст і штораз часцей вяртаюцца ў родную вёску, ёсць больш. Можа частка з іх рашыцца пасля выхаду на пенсію перасяліцца сюды на пастаяннае жыхарства? Калі маладшыя асобы схочуць жыць у Камені, будуць жа маглі на сваіх машынах даязджаць на працу ў нарваўскі «Пронар», у Гайнаўку, ці Бельск-Падляшскі, бо зараз даезд на работу на адлегласць 15-20 кіламетраў не праблема.

# На хвалі святой камерцыі (3)

Фота і тэкст ЕВЫ СЦЕПАНЮК

Святы Меркурый сам адзін абароніць Смаленск, аднак каб усё было ясна, не ён тут галоўны начальнік. Думка пра вызваленне нараджаецца ў грудзях Смаленскай Іконы Адзігітрыі, якая чуе стогн і плач апаганенай манголамі зямлі. Першы цуд здзейсніцца нечакана, у засакрэчанасці ад вяльмож і баяраў горада Смаленска. Сам князь, саноўнікі і народныя масы не ўдзельнічаюць у здарэнні. Варта прыглядзецца настрою, у якім здзейсніцца ідэя. Праз вокны Успенскага сабора прабіваецца шэрань, за момант пачнецца доўгая, насычаная жахамі і сечай ноч. Усярэдзіне завіхаецца сціплы дзячок: ён ці то прыбірае памяшканне, ці проста даглядае царкву — аўтар не ўдакладняе яго занятку. Справа ў іншым — дзячок будзе медыумам і перакладчыкам між Іконай і Меркурыем. Спачатку, калі царкоўны служка пачуе жаночы голас, ён трывожна азіраецца назад. Той голас чуецца, аднак, у яго галаве, нейкая сіла напраўляе яго ступні ў бок цудадзейнага абраза. І тут нечаканасць — Божая Маці бярэ слова. Звяртаецца з гарачай просьбай. Просіць дзяка, каб той адшукаў у горадзе воіна Меркурыя. Узрушаны і шакіраваны служка падае на калені і патанае ў слязах. Божая Матка застаўляе яго супакоіцца, засяродзіцца. Яна, што збівае чытача з панталыку, называе дакладны адрас, двор і дом ваяра. Кажа як распазнаць яе рыцара. Будучы святы, што добра разумее чытач, не з'яўляецца вядомай асобай у горадзе. Каб адкінуць усякія здагадкі, Адзігітрыя кажа яшчэ, што яе абраннік пакліканы небам з Рымскай зямлі не дзеля якой прыгоды ці забавы, а дзеля збавіцельнай абароны іх *града* Смаленска.



* * *

Для турыстаў, якія прыехалі ў Метэорскія манастыры, часта ў рамках адпачынку ад пляжа падабалася вестка пра сувязь месца са светам фільма. Тут, між іншым, здымаўся, шпіёнска-прыгодніцкі шэдэўр з Джэймсам Бондам. Масавы турыст патрабуе адно забаўляцца і думаць пра свае фоткі. І, праўдзе, яму ўсё да лямпачкі... Нават той непаседлівы Бонд, што гойдаўся на канатах паміж стромкіх скал, з рызыкай калецтва, дзеля ўцехі даражэнькага гледача...

Абавязковым пунктам нашай экскурсіі быў візіт у манастырскі склеп, дзе ў якасці экспанатаў паказвалі бочкі, цэбрыкі і амфоры, у якіх манахі трымалі віно і каньяк. У апошнім месцы аж прасілася наладзіць пункт для дэгустацыі...

Грэкаў недарма называюць славутымі хітрацамі. Турыстычныя атракцыёны ў Метэорах старанна аддзелены ад сферы сакрум. Народ, папярэджаны забаронай фатаграфаваць, сам абмінаў цэрквы і капліцы. Вялікай перашкодай у разуменні месца і яго духу з'яўляецца яшчэ звычайная недагаворанасць... Ідзе пра адсутнасць тлумачэнняў на мовы свету. Найгорш у музеях, калі з білетам у руках глядзіш і мала што кеміш, бо ўсе экспанаты падпісаныя адно на грэчаскай мове. Праўда, шмат ведаў з гісторыі месца падкажуць мастацкія творы, жывапіс. У манастырскім музеі ўвагу прыкоўваюць асаблівыя карціны з антыфашысцкім зместам. Сучасныя грэкі ганарацца тым, што іх народ годна працярпеў ліхалецце Другой сусветнай вайны і не пайшоў на калабарацыю з фашыстамі. Прыклад грамадству даваў архіепіскап Дамаскін (у міры Дымітрыос Папандрэу), які, нягледзячы на пагрозу расстрэлу, адкрыта крытыкаваў акупантаў і публікаваў пісьмы супраціву. З рэальнай абаронай ахвярам вайны паспяшылі манахі, якія хавалі ў сваіх манастырах яўрэяў. Падобную ролю адыгралі і славутыя Метэоры, якія ад вякоў лічыліся надзейным прыстанішчам і сховам ад выгнаннікаў і ахвяр пераследу.

Праўда, гэты ўрок хрысціянства ў чыстай форме, ад якога ўспаміналася чалавечая годнасць, не цікавіў нашу экскурсію. Яна зноў разлезлася па манастырскіх крамах у пошуках залатых ланцугоў і бранзалетаў.

* * *

У акафісце, прысвечаным звышгоднаму пакутніку Меркурыю, асобу святога называюць *добрапахучай кветкай беларускай зямлі!* Гімн напісаны паводле першай беларускай версіі „Аповесці", аднак яго голас накіраваны ў будучыню. Цудатворца Меркурый тут ставіцца ў прыклад жаўнерам і абаронцам Беларусі. Але вернемся да самога здарэння...

У час, калі дзячок адшукае яго дом, маладзён ужо гатовы. Не, ён яшчэ не ведае пра назначаную яму ў небе місію. Аднак сэрца падказвае, што рабіць. Ён стаіць пасярэдзіне двара, у *цэлым падобіі*, са зброяй. Пасля кароткага прывітання абодва мужчыны вяртаюцца ў царкву. Божая Маці, угледзеўшы свайго абранніка, зноў прамаўляе да... дзячка.

Меркурый падае на калені, плача ад узрушанасці і гонару. Момант, калі Багародзіца звяртаецца да дзяка, каб той перадаў ваяру план абароны горада, напамінае звычайны моўны пераклад. Верагодна, іх размова вядзецца на мове мясцовых крывічоў, якія ў той час засяляюць Смаленск. Замежны рыцар не паспеў яшчэ вывучыць беларускай мовы і трэба з ім кантактаваць праз *благачэсную* грэчаскую мову... Магчыма, сведка патрэбны яшчэ і на тое, каб пасля ўсяго распавесці пра цуд у народзе...

Просьба Іконы, якую перакажа дзяк, таксама вядомая ваяру. Гэтыя словы няраз ужо гучалі ў душы набожнага рымляніна. Зараз, па загадзе Бародзіцы, яму неабходна накіравацца ў месца вядомае як Даўгамосце, дзе спыніліся на начлег варожыя атрады. Атака манголаў была запланавана ў найбліжэйшы ранак. Каб дадаць адвагі, Адзігітрыя ўручае ваяру нябесны меч ды сама абяцае дапамагаць у баі. Паміж загадам і чынам здзяйсняецца яшчэ канкрэтная здзелка. За свой уклад у абарону горада, Меркурый атрымае заплату. Яму абяцаецца вянок славы, памяць і ўдзячнасць будучых пакаленняў і месца спачыну побач Іконы ва Успенскім саборы. У шляхетным кругу — тут жа размаўляюць тры персанажы — ні словам не ўпамінаецца пра цану. Чытач і так разумее, што звышгодны Меркурый дзеля свабоды гатовы прынесці ў ахвяру сваё маладое жыццё.

Яго ахвяра, што адвочна адзначае беларускі акафіст, прынесеная беларускай зямлі. *Сьцяной пераможнай ёсьць ты, Мяркуры звышгодны, дзеля горада Смаленска і ўсёй зямлі Беларускай, нябачна ў ёй перабываючы і молячы аб нас Хрыста Бога і Яго нарадзіўшую Богамаці ад Яе ж меч маеш нябёсны, ім жа дэманаў паветраных і варагаў зямных перамагаеш...*

Праўда, з расійскага боку ўсё гэта выглядае інакш. Прыклад святога спрацоўвае ў карысць іншай дзяржавы. У дачыненні да пакутніка захаваны прынцып недагаворанасці і тайны. Вядома пра элітны атрад спецназа, ахрышчаны імем святога. Атрад «Меркурый» паўсакрэтна дзейнічае дзесьці ў наваколлі Смаленска...

*(працяг будзе)*

## Гарадоцкая дэмаграфія

Гарадоцкая гміна займае 430 квадратных кіламетраў. Цягнецца ад дзяржаўнай мяжы з Рэспублікай Беларусь ажно пад Беласток, ад Баброўнікаў да Маёўкі — больш за 42 кіламетры. Яна мяжуе з пяццю гмінамі.

У 1979-1980 гадах у Гарадоцкай гміне пражывала 8300 чалавек, у тым ліку 4050 мужчын і 4250 жанчын, у 1992 г. — 7072 асобы. У 1960 г. Гарадок налічваў каля 1500 жыхароў, у 1970 г. — 1782, у 1979 г. — 2144 і ў 1992 г. — 2855.

Зараз у Гарадоцкай гміне пражывае 5666 чалавек у 45 населеных пунктах. У 2010 г. гміна налічвала 5699 чалавек. Тады яшчэ жыла адна асоба ў Козім Лесе (цяпер няма там нікога). Як бачым, колькасць насельніцтва ў гміне змяншаецца.

У гэтым годзе ў Гарадоцкай гміне пражывае 2738 мужчын і 2928 жанчын (апошніх амаль на дзве сотні больш).

А вось найбольшыя вёскі: Гарадок — 2554 жыхары, Валілы-Станцыя — 613, Залукі — 218, Вейкі — 170, Баброўнікі — 144, Валілы-Двор — 140, Падазяраны — 134, Валілы — 107 і Зубры — 102. Найменшыя вёсачкі гэта: Глейск — 15 жыхароў, Юзэфова — 14, Нарэйкі — 12, Ярылаўка — 10, Засады — 7 і Габяты — 6. Пароўну жыхароў маюць вёскі Бялевічы і Сафіпаль — па 88, Меляшкі-Каленія і Вераб'і — па 53, Лужаны і Зубкі — па 40, Грыбаўцы, Радунін і Руда — па 39, Боркі і Пераходы — па 36 ды Каралёвае Стойла і Свісłачаны — па 28.

Найстарэйшымі жыхаркамі Гарадоцкай гміны з'яўляюцца Лідзія Курыловіч з Пераходаў (1911 года нараджэння) і Надзея Прышчэпка з Баброўнікаў (1912 г. нар.).

## Харашчанская дэмаграфія

Харашчанская гміна (Беластоцкі павет) налічвае 37 мясцовасцей, у якіх пражывае 13 846 чалавек — у тым ліку 6877 мужчын і 6969 жанчын. Найбольш населенай з'яўляецца Харошча — 5562 чалавек (2719 мужчын і 2843 жанчыны). Іншыя вялікія вёскі гэта Клепачы — 1523, Златорыя — 904, Крупнікі — 564, Парослае — 501, Баршчэва — 444, Жулткі — 367, Лыскі — 364, Панькі — 352, Ізбішча — 308, Парослае-Каленія — 253, Олішкі — 230, Рогава — 223, Дзікае — 167, Канавалы — 162, Сянкевічы — 159, Слўна — 151 і Зачарляны — 147.

Малыя вёскі гэта Рагувак — 82 жыхары, Агароднікі — 81, Яронікі — 80, Жулткі-Каленія — 57, Рогава-Маёнтак — 53 і Турчын — 20.

Па колькасці мужчыны пераважаюць у 18 вёсках, а жанчыны ў 15. Пароўну адных і другіх у Рагуўку (па 41). Значна больш жанчын пражывае ў Харошчы, Баршчэве, Лысках, Дзіках, Сянкевічах і ў Жултках.

Прыйдзецца забраць дошкі з назвай паселішча ў Гаёўніках-Каленіі, Каленіі-Чапліна, Зачарлянах-Каленіі і ў Златорыі-Цагельні. У іх ужо ніхто не пражывае.

У першым паўгоддзі 2012 года ў ЗАГСе ў Харошчы зарэгістравалі 68 нараджэнняў і 73 пахаванні. Значыць, гміна знаходзіцца на дэмаграфічным мінусе.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# Фабрыка і беларускія „Цаглінкі”



Фота Ганны Кандрацюк

У час Сустрэч „Зоркі” мы паехалі на керамічную фабрыку ў Старым Ляўкове. У дарозе мы спявалі беларускія песні і захапляліся нараўчанскімі краявідамі.

На месцы мы мелі магчымасць пабачыць фабрыку, якая працуе ўжо сорак гадоў і прадае цэглу па ўсёй Польшчы. Спачатку нас сустрэў дырэктар фабрыкі Аляксандр Бандарук, які расказаў нам пра гісторыю прадпрыемства. Яно пабудавана на залежах высакаякаснай гліны. Раз, калі капалі гліну, знайшлі там ікол маманта. Гэта сведчыць, што нараўчанская зямля была заселена ўжо ў дагістарычны час. Знаходка са Старога Ляўкова цяпер знаходзіцца ў музеі ў Беластоку. З цэхамі фабрыкі пазнаёміў нас інжынер Яцак Стэфаняк, ураджэнец Варшавы, якія працуе на фабрыцы амаль ад пачатку яе існавання. Ён расказаў пра штодзённае жыццё і працу фабрыкі. Мы даведаліся, што цэглу ў 75 адсотках складае гліна і ў 25 адсотках — пясок. Таксама, што адна цэгла важыць 12 кілаграмаў.

На маю думку, гэта вельмі важна, што ў Ляўкове існуе такая фабрыка, таму што на ёй працуе 120 чалавек. Гэта станоўча ўплывае на павышэнне стандарту жыцця і развіццё культуры ў гміне. Старое Ляўкова — багатая і задбаная вёска. Многія людзі жывуць як у горадзе, у жылых блёках. У іншым канцы пабудаваныя новыя, шыкарныя катэджы. У мясціне працуе аж пяць крамаў. Тут таксама існуе беларускі калектыў „Цаглінкі”, а ў цэнтральным магазіне можна купіць свежую „Ніву”.

**Эмілія Міхалёва,**
*„Наша Суполка”, V клас НПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку*

# Што рабіць, каб доўга жыць!

Пабываючы на прыродзе, мы зразумелі, што яна мае вялікі ўплыў на нашае здароўе. Вельмі важная яда. Мы — такія, як нашая яда. Спадар Барыс Казлоўскі назваў прынцыпы здаровага харчавання:

а) **Раніцай абавязкова трэба выпіць сок з агародніны і садавіны.**
б) **На абед мяса!**
в) **Шмат спажываць малочных прадуктаў.**
г) **Часта есці рыбу.**
д) **Есці бульбу, чырвоную цыбулю, буракі, капусту.**
е) **Кашу варыць пяць хвілін.**
ж) **Не піць у час яды.**
з) **Удзень піць многа вады.**

Прапануем вашай увазе рэцэпт на хуткі і смачны салат з агародніны. *Адна пекінская капуста, тры памідоры, бначка кукурузы, соўс вінегрэт.* Усе кампаненты спалучыць і салат гатовы. Смачна есці!

*„Учора, сёння, заўтра”*

# НАРАЎЧАНСКАЯ ШКОЛА



Фота Ганны Кандрацюк

Усе ўдзельнікі 26 Сустрэч „Зоркі” паехалі ў Нараўку. Там мы наведалі школу. У зале беларускай мовы адбылася сустрэча з настаўніцай Ганнай Кандрацюк і яе навучэнцамі. Нараўчанскія вучні арганізавалі для нас конкурс ведаў пра сваю гміну. Ён не быў лёгкі, але таму, што праходзіў у сяброўскай атмасферы і з намі былі хлопцы з Нараўкі, мы з ім справіліся, здаецца, не найгорш. Пасля пані дырэктар Ліля Тарасевіч расказала пра сваю школу і паказала яе. На канец сустрэчы мы зрабілі памятны здымак.

На экскурсію мы паехалі трактарам са спецыяльнай прычэпай. Гэтае падарожжа было вясёлым.

**Адам Сцепанюк**
*„Учора, сёння, заўтра”, IV клас ПШ у КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім*



Фота Ганны Кандрацюк

# Вершы Віктара Шведа

## Перабольшыла

Вярнуліся дзяўчынкі
Ад вясковай бабулі.
Ніна кажа: — Там свінка
Тоўстая, як матуля.

— Не гневайся, дарагая,
Перабольшыла Ніна,
Яна нас абражае,
Няма такіх тоўстых свінак.

## Пішу лісты дахаты

Надта цешыцца Міколка.
— Адкуль маеш грошай столькі?
Запытаў Міколу Ваня.
— Маю грошыкі з пісання.

— А што пішаш, кніжкі можа,
Шмат апавесцяў прыгожых?
— Не, лісты да мамы й таты,
Маю я бацькоў багатых.

# Шляхам нашых манастыроў

Калі ў вас неўзабаве дзень нарадзінаў або імяніны і вы яшчэ не раншылі, што хочаце атрымаць у якасці падарунка, прапаную звярнуць увагу на настольную гульню „Праваслаўныя манастыры ў Польшчы”, якая толькі што паявілася ў продажы. „Праваслаўныя манастыры ў Польшчы” — калектыўная гульня, таму неабходна будзе сабраць кампанію: сямейнікаў, лепшых сяброў ці мо кагосьці, з кім вы хацелі б пазнаёміцца і пакуль вам гэта не ўдалося. Гуляць у яе можа ад двух да шасці гульцоў. Яе стваральнікі — бацюшка Андрэй і Лілія Буслоўскія паклапаціліся не толькі пра гарантаванне гульцам добрай забавы, але і інтэлектуальнае развіццё. Аўтары заахвочваюць да ўласнага прыдумвання новых гульнёвых пытанняў і задач, датычных Старога і Новага Запаветаў, жыццій святых, набажэнстваў ці літургічнага года. Супольная гульня можа стаць нагодай для пашырэння ведаў пра веравызнанне многіх з нас і нашых продкаў. Гульцы-пілігрымы падаюцца ў сапраўднае паломніцтва, знаёмячыся з гісторыяй і сучаснасцю манастыроў у Войнаве, Супраслі, Звярках, Адрынках, Саках, Залешанах, Грабарцы, Кастамлотах, Яблачыне, Турковіцах, Высовай і Уйковіцах. Пры нагодзе пілігрымы раскрываюць геаграфію месц, называюць рэкі, над якімі распалажаны цэрквы. У галіне манаства гульцоў чакаюць між іншым такія пытанні: у якой епархіі знаходзіцца манастыр у Войнаве, дзе можам пабачыць катакомбы ці калі ўзнік Яблачынскі манастыр. Удзельнікам неабходна ведаць, між іншым, што такое ахвярны стол, які колер адзення духоўніка сімвалізуе Божую Маці, як называем чалавека, які піша іконы святых? Паломнікі




раскрываюць тайны жыццій святых: каго называюць стваральнікам манаства, хто пераклаў літургію на царкоўнаславянскую мову, каму прысвечана пятая нядзеля Вялікага Посту? Гульцы пазнаёмяцца таксама з асабівасцямі царкоўных набажэнстваў, у тым ліку са зместам Усяночнага дбання, словамі еўхарыстычнага канона, літургічнай сімволікай Святога Духа. Веды пра Святое Пісанне правераць такія пытанні як: дзе адбыліся першыя цуды Ісуса Хрыста, хто дапамог несці Ісусу Хрысту крыж, што састаўляла дыету Яна Хрысціцеля? Гульня патрабуе таксама арыентацыі ў царкоўных святах. Трэба ведаць, між іншым, што ўспамінаем у пяцідзесяты дзень пасля Пасхі, калі пачынаем спяваць калядныя песні, якое свята папярэджвае Піліпаў пост.

Усё гэта гучыць даволі складана, але ж няма чаго баяцца. У кніжачцы знойдзем проста сфармуляваныя тлумачэнні і гатовыя адказы на пытанні, якія пашыраць веды не толькі дзяцей, але і бацькоў. Хто ведае, можа некаторыя з вас захопяцца не толькі самой гульнёй, але і царкоўным жыццём і ў недалёкай будучыні вырашаць падацца ў сапраўднае паломніцтва шляхам нашых манастыроў.

**Іаанна ЧАБАН**

# Музыка з кайфам

## На ўсход, але на захад...



Звычайна, каб рабіць кар'еру, людзі пераязджаюць на захад, прынамсі ў еўрапейскім грамадстве. Часам бывае наадварот, але гэта неабавязкова ў мастацкім свеце і датычыць часцей пазітыўных шаленцаў. Наста Някрасава, маладая беларуская вакалістка, калі на яе глянуць на шаленца не выглядае. Яна, дарэчы, паехала не ў Маскву, а на захад, у Варшаву. Спявала ў беларускім фольк-гурце „NHS”. Пасля яе шляхі зышліся з музыкамі, якія сёння выступаюць пад шыльдай „FolkRoll”. З гэтым другім праектам, можна сказаць, адбыўся прарыў, разам з узнагародай у час конкурсу „Новая традыцыя” Польскага радыё. Да гэтага Наста ў Варшаве пачала вучыцца, там сустрэла менеджара, які ўласціва заняўся не толькі яе кар'ерай, але стаў прапанаваць цікавыя ідэі польскім музыкам. Праект „R.U.T.A.” стаў незвычайнай з'явай на польскай сцэне ў апошнім часе. Там больш цешыла беларускага слухача, што ў буйным наватарскім праекце заспявала беларуская фольк-вакалістка і паказала свой зусім новы твар. Калі „R.U.T.A.” мела выступаць на „Басовішчы-2011”, гэты крэатыўны менеджар, якога прозвішча Ігар Знык, прапанаваў заспяваць яшчэ штосьці па-беларуску. Гэта стала крыніцай для далейшых пошукаў, у выніку якіх слухачы атрымалі другі дыск: „R.U.T.A. Na vschod. Wolność albo śmierć”. Альбом, які толькі што паказаўся, захапляе з першай хвіліны, а найбольш захапляе голас Насты Някрасавай, які прыдае новай якасці польскім фольк-выкананням, а нават фольк-панк-выкананням! Наста выдатна знайшла сябе ў новай канвенцыі, класна ўмее выкрычаць злосць, незадавальненне, бунт, якія на новым альбоме прэзентуюць артысты. Для нас гэта таксама цікава, таму што дыск змяшчае, між іншым, традыцыйныя беларускія песні. Часта гучаць яны на мове арыгінала, нягледзячы на пераклады на польскую мову, якія былі пунктам выхаду. Вынік? На польскіх салонах пачуюць словы бунту па-беларуску. Рытарычным застаецца пытанне ці сёння бунтаваць трэба.

*i_basovka@o2.pl*

# Гумар на канікулы

Ідуць дзве бландзінкі праз пустыню з вокнамі на плячах. Раптам адна кажа:

— Спёка тут!

Другая ёй:

— Давай адчынім акно, то будзе скразняк.

* * *

Настаўнік загадаў вучням напісаць сэнсоўны сказ са словам „цукар”. Янка напісаў: „Я кожны дзень п'ю гарбату з лімонам”.

— А дзе тут цукар? — пытае настаўнік.

— Распусціўся ў гарбатцы.

* * *

— Чаму бландзінка лезе на шкляны мур?

— Каб пабачыць, што знаходзіцца па другім баку шкла.

* * *

Бацька просіць у Янкі:

— Сынок, памалюй акно ў кухні.

Пасля гадзіны прыходзіць Янка і пытае:

— А рамы таксама памаляваць?

*Лукаш Марчук і Пятро Свідэрскі, „Папля”*

# Польска-беларуская крыжаванка № 35

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 30: Стан, дазвол, яда, вада, лаза, сена, клінок, лак, но, ява, тон. Свет, Ада, сіла, на, Лена, званок, вазак, мода, но, Ала, слон.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Pan / Nie | Eta / Obszar | |
| | Czarodziejka / Tło | Entuzjasta / Rękaw | | | | | |
| | Sokół | | Kant | | | | |
| Sęk / Oka | | | | | | | Stóg |
| | | | | Car | Era | | |
| Koncert | | | | | | | |
| Autor | | | | | | | |
| | | Jał | Ranga | | | | |

**Хлеб у нашым народзе заўсёды лічыўся святасцю. Да яго ставіліся вельмі сур'ёзна і адказна. Калі крышынка ўпала са стала, яе падымалі, перахрысціўшы і пацалаваўшы. Аднолькава ставіліся і да вельмі цяжкіх і адказных палявых работ, звязаных з уборкай ураджаю. Іх пачатак і канец заўсёды адзначаўся вельмі ўрачыста не толькі ў кожнай сям'і, але і ў цэлым грамадстве. Менавіта заканчэнню жніва — дажынкам — было прысвечана мерапрыемства, наладжанае 5 жніўня г. г. Беластоцкім музеем вёскі. Пачалося яно з канцэрта калектываў нашага ваяводства. У ліку выступаючых апынулася нямала артыстаў-папулярызатараў беларускай песні ў розных яе жанрах. Больш аўтэнтычны, фальклорны напрамак запрэзентавалі бельская „Жэмэрва", трыо сясцёр з Макаўкі і крынская „Зараніца". „Чарамшына" і беластоцкая „Грамада" сваімі ўдалымі аранжыроўкамі заахвочвалі публіку да танцаў.**

# Плён нясем, плён!

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН





На загоне са збожжам, акружаным стройнымі сланечнікамі, непадалёк беларускай хаты са Старой Грыбоўшчыны паявіліся сапраўдныя жняцы. Удзельнікі калектываў „Малліннікі", „Гілочка", „Жэмэрва" і „Ранок" прадэманстравалі кавалак цяжкай, шматдзённай і аднастайнай працы, якая адымала ў хлебаробаў усе фізічныя і душэўныя сілы. Не абышлося і без жніўных песень — адзінага, сапраўднага сродка падтрымкі і аднаўлення фізічных і духовых сіл стомленых жняцоў. Спявалі яны ідучы ў поле, у час працы і вяртаючыся дахаты. У натоўпе фотарэпарцёраў і назіральнікаў гэтага ўжо вельмі адлеглага фрагмента нашай калісь паўсядзённай рэчаіснасці паявілася невялікага росту бабуля. Падпершыся кіёчкам, спаглядала яна на кіпучы людзьмі і працай загон, паціхеньку падпяваючы добра вядомыя ёй песні. Выявілася, што бабулю завуць Надзея Сахарчук. Яна, нягледзячы на свой пажылы ўзрост, рашылася прыехаць з калектывам з Маліннік, каб пабыць на мерапрыемстве і падтрымаць выступаючых аднавяскоўцаў.

— Падышоў да мяне Пеця, з вусамі, і кажа: „Едьтэ, тёту, едьтэ", ну і я паехала. Мы калісь на лавачках у Маліннках спявалі, — тлумачыць спадарыня Надзея, — столькі песень ведалі: і жніўных, і хрысцінных, і вясельных, і вялікапосных. У мяне іх цэлы мяшок. Я ж усе жніўныя песні спявала. Я ж хадзіла ў наймы. Мне было ўсяго пятнаццаць гадоў, калі на чужым загоне жала. Працаваць вучылася ад старэйшых сясцёр: адной — родналі, другой — дваюраднай. Сёстры казалі: „Возмем Надзю, хай пару грошаў заробіць. Паставім пасярэдзіне, будзем паджынаць і яна разам з намі". І яны ўзялі мяне. Жалі ў Спічках. Ад нас туды можа кіламетраў пяць. Якая то сіла была ў маладога чалавека. Са Спічкоў дахаты прыйшла ўжо па захадзе сонца. Рэчка недалёка, пабегла я туды вымыць шкарпэты і беленькія папуцінкі ў царкву. Басаноэк у нядзелю я ніколі не хадзіла. Сколькі гэтай сілы было, што я не ленавалася. Помню, тады сёстры пару грошаў дахаты прынеслі. І я таксама зарабіла... А перад вайной плацілі два злоты з палавінай. Тыя грошы, як ішла замуж у 1942 годзе, у сундуку ляжалі. Раз мама выбралася ў жыдоўскую краму. Я кажу: „Мамо, купіце мне шаліноўку". Мама пашкадавала. Так я і пайшла замуж з гэтымі грашамі. Вайна якраз у жніва канчалася. Тады хлеба бракавала, не было дзе і за што яго купіць. Пасходзіліся сельскія жняцы, жнуць і смяюцца, жартуюць, ідуць да дому, спяваюць. Ой, Госпадзе, жнем, а назгадваем, а нажартуем. А як добра ў кампаніі было. Нажнемся цэлы дзень, зойдзем на абед у сяло і спяваем. А людзі здзіўляюцца, што ў нас яшчэ столькі сіл засталося. А дахаты зойдзем, то ўжо сонца зайдзе, снапы паношаны, і зноў спяваем. Апошняе сапраўднае жніва адбылося ў нашай вёсцы ў дзевяностых гадах. Але ў маёй памяці яно застанецца назаўсёды. Мне і цяпер цікавы тыя песні. Я ўсё іх спявала б і спявала б.



Надзея Сахарчук

Даўнія часы можна было таксама прыгадаць на фотавыстаўцы „Абрадны год на Падляшшы", якая ў той дзень адкрылася у музейным будынку двара з Бобры-Вялікай. Яе аўтар, дырэктар музея доктар Артур Гавел расказаў пра генезіс і асноўны змест экспазіцыі:

— Здымкі з'яўляюцца падсумаваннем маіх больш чым дзесяцігадовых падарожжаў па нашым ваяводстве. Яны трапяць таксама ў альбом, прамоцыя якога адбудзецца ў снежні гэтага года. Пачаткова я цікавіўся мясцовай драўлянай архітэктурай, якая надалей мяне захапляе. Пры нагодзе шматлікіх паездак сустракаўся я са старэйшымі людзьмі, якія ахвотна распавядалі пра даўнія святы, звычаі і здарэнні. Гэтыя аповеды звярнулі маю ўвагу і я пачаў усё збіраць, запісваць, фатаграфаваць. Такім чынам мне давялося ўбачыць усе перамены, якія ахапілі падляшскія вёскі ў адносна кароткім перыядзе. Дастаткова паглядзець на ворную зямлю, збожжавыя нівы. Сустрэнем там не больш чым скручаную ў цюкі салому. А яшчэ некалькі гадоў таму можна было ўбачыць нямала адметных для нашага рэгіёна дэталяў. Няма ўжо снапоў, дажынкавых перапёлак і многа чаго яшчэ. Але не ўсё страчана. Калі добра пашукаць, можна наткнуцца на апошнія рэлікты папярэдніх эпох.Тут згадаю Провадны панядзелак у Чыжах, калі пасля багаслужбы народ збіраецца на могілках, каб разам з пакойнікамі адсвяткаваць Пасху і падзяліцца прынесенымі на могілкі святочнымі стравамі. Гэты звычай захаваўся яшчэ з паганства, значыць яму не менш за тысячу гадоў. Сустрэчы з жыхарамі падляшскіх вёсак і іх традыцыямі вельмі захапляюць. Хочацца больш і больш пазнаваць, збіраць і дакументаваць. Я стараўся захаваць раўнавагу, калі гаворка ідзе пра ўключэнне розных частак нашага немалога і неаднароднага ваяводства. Галоўным чынам я канцэнтраваўся на ваколіцах, у якіх захавалася найбольш цікавых звычаяў. Мабыць, на сённяшняй выстаўцы я прадставіў найбольш здымкаў з усходняга Падляшша, але гэта таму, што менавіта праваслаўныя вёскі самыя багатыя ў старадаўнія звычаі і традыцыі. Гэта мой аўтарскі выбар даволі шырокай калекцыі каштоўных даследніцкіх матэрыялаў. Прадстаўленыя тут звычаі і абрады састаўляюць вельмі шырокую тэматыку. Яна вызначаецца асноўнымі святамі — Калядамі і Вялікаднем, вакол якіх існуюць павер'і характэрныя канкрэтнай вёсцы ці сям'і. Для нас, сучасных людзей, Вялікдзень ці Каляды гэта выключна касцельныя ці царкоўныя падзеі, а нашы продкі ўспрымалі гэта зусім інакш. Усё-такі хрысціянства пераняло і заадаптавала большасць старых звычаяў, дзякуючы чаму яны датрывалі да нашых часоў. Да кожнага свята і традыцый, якія ў ім змяшчаюцца, у мяне падыход вельмі шырокі. У сваіх пошуках базую не толькі на тэрыторыі Падляшша, але звяртаюся і да літаратуры, якая змяшчае звычаі ўсходніх славян: у асноўным расіян, украінцаў і беларусаў, але таксама балгараў і сербаў. Толькі такі шырокамаштабны погляд гарантуе поўнае зразуменне паасобных звычаяў. Мне пашанцавала неаднаразова падарожнічаць па Беларусі, размаўляць з яе жыхарамі, збіраць навуковыя, параўнальныя матэрыялы. Для мяне ясна, што мяжа паміж Польшай і Беларуссю з'яўляецца ненатуральным творам, раздзяляючым адну культурную суцэльнасць.

Фотавыстаўка падзелена на тры часткі па прычыне ўмоў памяшкання, у якім яна экспануецца і з-за нерэгулярнасці абрадавых цыклаў. Найбольш багатым у звычаі аказаўся веснавы перыяд, крыху менш іх зімой, а зусім мала ўлетку і восенню. Паводле слоў аўтара экспазіцыі, гэта таму, што зімой і вясной людзі спасылаліся на ўсякага тыпу магічныя дзеянні, каб забяспечыць цэлагадовае шанцаванне і добры плён. У зімовай частцы фотавыставы можна было, між іншым, пагледзець Святыя вечары ў падсакольскім Янаве.

— Калі вы хочаце пабачыць сапраўдных калядоўшчыкаў, як на гэтым здымку з Трасцянкі, — дадае спадар Гавел, — вам абавязкова трэба падацца на праваслаўныя Каляды ў раён паміж Бельскам-Падляшскім і Гайнаўкай.

Наведвальнікі выстаўкі маглі даведацца многа цікавага таксама пра зімовае свята Грамніц. Апрача вырабу хатнім спосабам васковых свечак і выконвання імі жэстаў у хаце, яно характарызавалася дахрысціянскім звычаем абпальвання валасоў кругом галавы для аховы ад удараў грому. У летняй частцы экспазіцыі пераважалі прадстаўленні масавых, дажынкавых мерапрыемстваў, багатых у вялікія вянкі і фальклорныя калектывы. Як сказаў спадар Гавел, цяпер ваяводскія і раённыя дажынкі з'яўляюцца адзінай нагодай для выканання жніўных песень ці спляцення сапраўднага вянка, званага ў некаторых раёнах руўнянкай, кветкай ці пражмам.

Менавіта падсумаваннем конкурсу на найпрыгажэйшы дажынкавы вянок і ўручэннем узнагарод пераможцам завяршылася музейнае свята.

# Прытча пра ветразі

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



Патрыярх Кірыл на Святой Гары Грабарцы

**Сёлета з-за непрадбачаных прычын не давялося мне наладзіць маштабнейшага індывідуальнага паходу ў напрамку Грабаркі пад найбуйнейшае ў нас свята Спаса. Заехаў я толькі ў Сямятычы і толькі адтуль мог прысвяціць крупінку свайго часу трансцэндэнтнаму. Дарога з ронда, што побач сямятыцкага аўтобуснага вакзала прамяніста выходзіць у бок Грабаркі, аднаўляецца з прыцягненнем еўрасаюзных сродкаў. Усе працы на ёй маюць быць закончаны ў будучым годзе. Пакуль астаюцца да завяршэння тратуары і асфальтавае палатно толькі ў горадзе, за горадам жа асфальт шырокі і гладкі як стол, абочыны дарогі акуратна абкошаныя. Абганялі мяне нешматлікія ў тую пару аўтамабілі, бо ж да пачатку вячэрні з удзелам патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Кірыла аставалася шэсць гадзін. У самой вёсцы Грабарцы нагнаў я пажылую жанчыну, якая несла ў руках упрыгожаны сабранымі па дарозе кветкамі крыж і малітоўнік ды паводле таго малітоўніка спявала рэлігійныя песні. Калі я спытаў, ці ідзе яна з нейкай інтэнцыяй, адказала станоўча, бо ж бед у жыцці нямала.**

Грабарка ў спасаўскі час нагадвае гіпермаркет, з той розніцай, што ў цэнтры, заміж сеансаў мультыкіно, адбываецца рэлігійны абрад. А на абочынах усялякія ларкі з усялякай усячынай, некаторыя з іх адкрыты нават кругласутачна. А на яшчэ далейшых абочынах поўныя стаянкі бліскучых аўтамабіляў.

Непаклоннікі маскоўскага патрыярха ўпікаюць яго за гадзіннік, варты многія тысячы швейцарскіх франкаў. Але мабыць той гадзіннік добра яму служыць, бо картэж аўтамабіляў з ім з'явіўся на Святую Гару з ювелірнай пунктуальнасцю. Чакала яго некалькісотметровая шчыльная шпалера народу, якая пасля патрыяршага праезду доўгім патокам улівалася ў манастырскія муры.

У шэсць гадзін адвячорка пачалася вячэрня, якую ўзначаліў высокі госць. У пропаведзі сказаў ён, м.інш.: *З вялікай радасцю сузіраю я вас сёння, у такім мностве сабраўшыхся на гэтай святой гары, каб праславіць Перамененага Госпада. Я многа чуў пра гэтыя знакамітыя агульныя народныя малітвы, што адбываюцца на гэтым месцы. Бачыў здымкі і расказвалі мне пра гэта многа, але не мог сабе ўявіць таго, што адбываецца на самай справе. І душа перапоўнілася вялікай радасцю калі я бачыў незлічоныя чароды аўтамабіляў, мноства светлых і радасных твараў напраўляючыхся сюды для агульнай малітвы. Мы ўсе ведаем гісторыю, мы ўсе знаем, што выраслі з адзінага кораня і радуюся бачыць сёння праваслаўную польскую Царкву, напоўненую сілай, надзеяй, спадзяваннем на Божую ласку, упэўнена спаглядаючую ў будучыню. І для гэтай упэўненасці ёсць аснова, аснова гэта ваша праца па выхаванні вашых дзяцей і ўнукаў, па фармаванню духоўнага вобліку сучаснай праваслаўнай моладзі, па стваранні і захаванню глыбокай вашай духоўнасці. Шлях няпросты, таму што няпроста быць сёння хрысціянінам. І калі чалавек пераадольвае вонкавыя абставіны і праслаўляе Бога ў словах і думках сваіх, то адкрывае сабе дзверы збаўлення. Пакроў Прачыстай Нябеснай Царыцы няхай прабывае над Польшчай, над яе народам, над Польскай Праваслаўнай Царквой, каб у міры і дастатку жылі праваслаўныя і каталікі, захоўваючы адзінадушнасць і ствараючы грамадскую згоду. Я благаслаўляю вас і перадаю вам сваю любоў і сваю пашану вашай шчырай працы і працы вашых набожных бацькоў і продкаў для захавання вашай праваслаўнай веры. Амін. Усіх вас яшчэ раз віншую з вялікім святам Праабражэння Гасподняга.*

У падзяцы за гэтыя словы сабраныя, на заклік мітрапаліта Савы, праспявалі патрыярху Кірылу *Многая лета*.

Кожны чын літургіі аднолькавы, з выключэннем пропаведзей. А пропаведзі ў найважнейшы для візіту патрыярха Кірыла момант, падчас літургіі ў дзень Праабражэння Гасподняга, лічу асаблівымі падзеямі па прычыне шматграннага, не толькі рэлігійнага аспекту візіту. Таму прывяду найважнейшыя вытрымкі з іх. Мітрапаліт Сава сказаў, м.інш.: *Сённяшняе чалавецтва стаіць перад многімі выклікамі. Трывожаць яго войны, падзелы, тэрарызм, паталагічныя з'явы, гублянне духоўнага жыцця, эканамічны крызіс, адпіханне Бога і змаганне з Ім. Усё гэта патрабуе ад нас супольнага праваслаўнага і хрысціянскага сведчання згодна з навучаннем Касцёла, які не з гэтага свету, а прапануе нам поўню жыцця. Яго навучанне, навучанне святых айцоў, святая традыцыя з'яўляюцца ўзорамі сучаснаму чалавеку. Ваша свяцейшаства і ваша шматлюдная вялікая Руская Праваслаўная Царква займаеце асаблівае месца сярод грамадскасцей усеправаслаўнага праваслаўя, рэагуючы на розныя сучасныя складаныя праблемы. Вашы шматлікія выступленні, дакументы Расійскай Царквы выразна паказваюць праваслаўнае стаўленне да актуальных праблем сучаснага свету. Да вашай вялікай працы ў карысць праваслаўя далучаемся і мы, ва ўсім спадзяючыся на Божую дапамогу і Ягонае мудрае нам наканаванне.*

Мітрапаліт Сава падзякаваў патрыярху Кірылу за візіт у Польшчу, малітвы і патрыяршае бласлаўленне. На памятку пабыўкі патрыярха мітрапаліт падарыў яму ікону святых мучанікаў холмскіх і падляшскіх. Да таго ж яшчэ адмысловую панагію (медальён) — Чанстахоўскую іконку Божай Маці з дароўным надпісам патрыярху.

У сваю чаргу патрыярх Кірыл сказаў: *Для нас Грабарка гэта Фавор у Польшчы, куды прыбывае мноства людзей, каб дакрануцца да гэтага святога месца і адчуць прысутны тут дар Божы. Тут няма ніякіх гістарычных манументаў, тут няма ніякіх рукатворных чалавечых шэдэўраў, усё вельмі простае, але тысячы і тысячы людзей не толькі з Польшчы прыходзяць сюды дзеля таго, што сэрцам адчуваюць тут наяўнасць Божага дару. Што адбылося на Фаворы ў дзень Праабражэння? Акт праабражэння супастаўляльны з той падзеяй, якая адбылася на гары Сінай. На Сінаі Бог з'явіўся Майсею і ўручыў яму скрыжалі закону. На Фаворы Бог увачавідкі паказаў нам свой дар, пра што і згадвае апостал Іаан у пачатку свайго Евангелля. Цераз Майсея даны нам закон, дар жа Божы прыйшоў да нас цераз Ісуса Хрыста. Гэтая Божая сіла ператварае чалавечае цела Ісуса, якое пачынае ззяць святлом. Гэтая энергія выпраменьваецца ў свет. Яна заззяла не толькі ў вобліку Ісуса Хрыста, але пранізала ўвесь космас. І словам Божым мы навучаны, што менавіта сілай Божага дару здзяйсняецца збаўленне чалавека. Збаўленне гэтае здзяйсняецца верай. Менавіта Божы дар у адказ на чалавечую веру збаўляе яго і ператварае акружаючы свет. А гэта абазначае, што вера чалавека адыгрывае сваю ролю ў перамене свету. Мы ведаем, што ў мінулым былі спрэчкі пра тое, якую ролю ў збаўленні чалавека адыгрывае вера і якую Божы дар. Я прывяду адзін прыклад, які дапаможа зразумець гэтае пытанне. Гэта вобраз яхты, якая можа мець выдатныя ветразі, але яхта не рушыцца з месца, калі тыя ветразі не прымуць у сябе ветру. Чалавек гэта ветразь, які не рушыцца з месца, калі не напоўніцца сілай Божага дару. Ён не пойдзе шляхам збаўлення, не дасцігне Нябеснага царства. Таму нашай задачай — адкрыць сябе ўздзеянню Божага дару, стаць парусам, які напоўніцца Божым ветрам, забіраючым нас у Нябеснае царства. І калі свет ператворыцца Божым дарам цераз чалавека, то што тады абазначае гэта для нас? А гэта абазначае, што наша прызванне заключаецца ў спрыянні дзеянню Божага дару ва ўсім тварэнні. Менавіта таму хрысціянін не можа абмежаваць сябе ў праяўленні сваёй рэлігійнасці толькі асабістым ці сямейным жыццём. Ён не можа здзяйсняць свае веры ў гета. Толькі маючы магчымасць матываваць свае ўласныя паступкі сваімі хрысціянскімі перакананнямі ў асабістым, сямейным і грамадскім жыцці хрысціянін удзельнічае ў перамяненні акружаючага свету сілай Божага дару. На гэтым і палягае наш удзел у грамадскім жыцці свету, у развіцці і дасканаленні чалавечай культуры. Свята Праабражэння Гасподняга навучае нас, што ніякае развіццё, у тым і грамадскае, якое не прымае ў сябе Божай энергіі, не прывядзе чалавечага роду да збаўлення і дабра. Ведаем прыклад Вавілонскай вежы будаванай без Бога. Мы з вамі ў Польшчы і ў Расіі, у былым Савецкім Саюзе ведаем пра будаўніцтва дзяржавы і грамадства без Бога. У нас унікальны вопыт удзелу ў будаўніцтве чалавечага шчасця і дабрабыту ў адрыве ад Божай ласкі і ведаем, што гэты вопыт праваліўся. Менавіта гэты наш вопыт павінен паказаць цэламу свету, што немагчыма збудаваць квітнеючае і справядлівае грамадства, калі з гэтага грамадства будзе выганяцца Бог. Менавіта таму хрысціяне, выходзячы са сваёй уласнай веры і матывуючы свае паступкі хрысціянскай мараллю, удзельнічаюць у многіх грамадскіх падзеях. Нядаўна ў Варшаве разам з арцыбіскупам Юзафам Міхалікам, старшынёй Канферэнцыі епіскапату Польшчы, мы падпісалі супольны зварот да польскага і рускага народаў. У ім змяшчаецца бадай самая галоўная думка: перамяніць на лепшае адносіны паміж двума народамі можна толькі з Божай дапамогай. Мы верым у тое, што сілы Божага дару ў адказ на нашу малітву прывядуць да паляпшэння адносін паміж нашымі народамі. Не абазначае гэта, што мы не ўлічваем значэння палітычных, эканамічных, культурных і іншых чалавечых фактараў, якія могуць гэтаму спрыяць. Але наша галоўнае спадзяванне — на Бога, на сілу малітвы. І падпісанне гэтага звароту не што іншае, як устаноўка ветразя пад правільным вуглом, каб сіла Божага дару напоўніла парус і памагла нам рушыцца наперад. І сёння молімся тут за народы Расіі і Польшчы, за наша нацыянальнае прымірэнне і заклікаем Божы дар выяўлены на Фаворы да нашых спраў. І верым, што Гасподзь пачуе нашы малітвы.*



Фрагмент сямейнага паломніцтва на Святую Гару Грабарку

Патрыярх Кірыл падзякаваў мітрапаліту Саву за тое, што адбываецца ў польскім праваслаўі. *Няхай Бог беражэ і Польшчу, і Русь Святую*, — сказаў. Патрыярх Кірыл падарыў мітрапаліту Саве дзве панагіі і крыж, а манастыру на Святой Гары Грабарцы — Напрастольнае Евангелле і ягонай ігумені таксама крыж.

Нядаўна ў Расіі Уладзімір Пуцін выказаў тугу па савецкім чалавеку. Папярэдні ўрад Іспаніі, раней гэтак жа каталіцкай як і Польшча, увёў шмат секулярызацыйных мер у сваёй краіне. І невядома ці Польшча, следам за Іспаніяй, у пагоні за свецкім Захадам, не захоча скінуць з сябе хрысціянскай спадчыны. Ветразі ўстаноўлены, невядома толькі якога ветру чакаць: ці еўрапейскага штылю ў Польшчы, ці шквалу ў Расіі, які там пранёсся напоўны век таму. Ды спаглядаючы з невысокіх высот на *верніцы аўтомобилей* і на тутэйшы наш народ, можна ўжо памаленьку заключаць, што свята Спаса трактуе ён як *івент*, на якім абавязкова выпадае паказацца.

# У Залешанах

■ Уладзімір СІДАРУК

**Залешаны — невялікае сялцтва ў Кляшчэлеўскай гміне. У пасляваенны час банда рэакцыйнага падполля спаліла вёску і здзейсніла лютае злачынства на жыхарах. З рук катаў „Бурага” загінула чатырнаццаць чалавек, у тым ліку жанчыны, старэчы і дзеці. У свядомасці патомных навечна захавалася памяць аб гэтай жахлівай трагедыі. З ходам часу загоіліся раны. Вёска адбудавалася. Некаторыя жыхары пасяліліся на хутарах, якім прысвоілі назву „Ровы” і „Сады”. Зараз у Залешанах больш за сорак гаспадарак. Пражываюць у іх шэсцьдзесят чатыры жыхары, у асноўным — пенсіянеры. Солтысам з'яўляецца Яўген Сакоўскі. Паколькі вёска мяжуе з Тапаркамі, у гмінным самаўрадзе абодва салэцтвы прадстаўляе адзін радны. Дэпутацкія абавязкі выконвае Галіна Гераз з Залешанаў.**

У васьмідзесятых гадах жыхары рашылі збудаваць святліцу. Ідэю прад'явіў тадышні солтыс Сцяпан Каляда. Ён пахадайнічаў, каб купіць жылое памяшканне, прызначанае для зносу. Будынак з вуліцы Казімяжоўскай у Бельску перавезлі ў Залешаны. Працу выконвалі на грамадскіх пачатках. Тадышнія ўлады належным чынам ацанілі актыўнасць сульнасці і ўзнагародзілі вёску дыпломам. Было гэта ў ліпені 1984 года. З таго часу святліца стала месцам сходаў і мерапрыемстваў. І так засталося па сённяшні дзень. Але ў прыродзе няма нічога вечнага. Старэюць людзі, старэюць будоўлі. Залешанскай святліцы спатрэбіўся рамонт. У 2010 годзе гміна рашыла аднавіць прыстарэлы будынак. Маючы на ўвазе свае абмежаваныя сродкі, пакарысталася еўрасаюзнай дапамогай у рамках праграмы „Аднаўленне і развіццё вясковай прасторы 2007-2013”. Прадбачаны кошт рамонту складаў суму 230 тысяч злотых. Да таргоў прыступіла шаснаццаць фірм. Перамагла фірма „Альфа-комплекс” з Лап. Абавязалася яна выканаць рамонт за 157 тысяч злотых. Прытым гміна пакарысталася 96 тысячамі злотых еўрасаюзных сродкаў. Рамонт доўжыўся каля двух гадоў.


Фота ГАК
Узнагароджаныя жыхары Залешанаў разам са святарамі, бурмістрам і дырэктарам ГАК

29 ліпеня 2012 г. адбылося асвячэнне адрамантаванай святліцы. У мерапрыемстве ўдзельнічалі бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч, благачынны а. Мікалай Келбашэўскі і а. Павел Нікіцюк, дырэктар Гарадскога асяродка культуры Лявон Алексяюк, радны і солтысы суседніх салэцтваў ды калектывы „Каліна” з Дашоў і „Васілёчкі” з Бельска-Падляшскага. Малебен адслужылі і чын асвячэння здзейснілі а. Мікалай Келбашэўскі і а. Павел Нікіцюк. Пасля слова ўзяла бурмістр Ірэна Негярэвіч, якая напомніла гісторыю вёскі і пабудовы святліцы:

— 28 год таму, 29 ліпеня 1984 года, гміна ўзнагародзіла жыхароў Залешанаў дыпломам за ўдзел у грамадскай працы. Зараз хачу выказаць падзяку і ўручыць гасцінец ініцыятару пабудовы святліцы Сцяпану Калядзе, даўнейшаму солтысу. Словы падзякі разам з дыпломамі передаю таксама солтысу Яўгену Сакоўскаму, раднай Галіне Гераз і двум членам Салэцкай рады Яну Сахарчуку і Мікалаю Леанчуку, якія праявілі актыўнасць пры рамонце і мадэрнізацыі святліцы. У наступным годзе вёска атрымае з салэцкага фонду больш за шэсць тысяч злотых. Жыхары самі вырашаць, на што прызначаць грошы. Можна будзе прыдбаць абсталяванне для святліцы, а можна будзе сарганізаваць проста канцэрт „Васілёчкаў”, на які зараз запрашаю...


Фота ГАК
У час малебна перад чынам асвячэння

У мастацкай частцы выступіла „Каліна” з Дашоў са сваімі вясёлымі гумарэскамі і згаданыя „Васілёчкі”. Канцэрт спадабаўся прысутным. У падзяцы жыхары запрасілі самадзейнікаў і гасцей да супольнага застолля. Пачастунак быў багаты. Смакавітыя стравы падрыхтавалі мясцовыя гаспадыні.




Нягледзячы на тое, што беларуская мова перажывае далёка не лепшыя часы, дыскусія аб беларускім правапісе не змаўкае. У значнай ступені гэтаму спрыяе існаванне дзвюх правапісных норм — наркамаўкі і тарашкевіцы. На даны момант можна з упэўненасцю сцвярджаць, што ўжо ў чыстым выглядзе не існуе ні тая, ні другая норма — варыянты напісання слоў у многіх тэкстах нагадваюць своеасаблівую правапісную трасянку. Зразумела, такая сітуацыя не дазваляе засвоіць паспалітаму люду нейкае адзінае нармаванае напісанне. У выніку многія папросту не ведаюць, як сапраўды правільна пісаць па-беларуску.

Прыкладам дыскусіі, якая, дарэчы, асабліва гучала ў 90-я гады XX стагоддзя, можна назваць сайт у інтэрнэце па адрасе **www.pravapis.org**.

Выгляд данага сайта зусім непрываблівы. На ім няма практычна ніякіх графічных аздабленняў і фотаздымкаў. Няма нават напісанай вялікімі літарамі назвы вэб-старонкі, што стварае ўражанне нейкай недапрацаванасці.

Усе выйсці на рубрыкі сайта, прычым напісаныя лацінкай, знаходзяцца з левага боку выяўлення. Прэзентацыю мэт яго стваральнікаў і ідэйных натхняльнікаў знойдзем на старонцы „Пра нас”, якая чамусьці размешчана ў самым нізе спіса.

„Гэты сайт усё яшчэ на забудове, але вельмі шмат матэрыялаў ужо даступныя цяпер. Раз вы сюды зазірнулі, то вы мусіць сябра нашай вэб-дружыны, патэнцыяльны супрацоўнік альбо пэрспэктыўны суаўтар. (...) Калі вы тут першы раз, агледзіцеся, пагартайце мэню, пачытайце артыкулы (на ангельскай і беларускай мовах). Сайт разлічаны ня толькі на ангельскамоўную аўдыторыю, але і на беларускую. Зьмест беларускай і ангельскай частак адрозьніваецца”, — распавядаюць пра свой сайт невядомыя яго стравальнікі.

Нягледзячы на тое, што гэтыя людзі не палічылі неабходным прадставіцца, яны адразу звяртаюцца да наведвальнікаў з прапановай дасылаць артыкулы, якія, на іх думку, будуць вартыя апублікавання на „Правапісе”. „На дадзены момант нам найбольш за ўсё бракуе новых артыкулаў (пажадана на ангельскай мове, але неабавязкова). Калі вы маеце нешта цікавае альбо ведаеце кагосьці, хто мог бы дапамагчы, калі ласка, дасылайце нам сваю інфармацыю”, — пішацца на старонцы „Пра нас”.

Што ж тычыцца непасрэдна зместу сайта, то на аднолькаватых старонках „Кнігі” і „Кнігарня” знойдзем анонсы і распаведы пра некаторыя кнігі па мовазнаўстве, у асноўным гэта слоўнікі. Рубрыка „Артыкулы” прапануе нам азнаёміцца з разнастайнымі поглядамі мовазнаўцаў на беларускі правапіс і стан беларускай мовы. Старонка „Download” карысная тым, што дазваляе спампаваць з сайта беларускія слоўнікі і кнігі ў электронным выглядзе, карысныя ўтыліты, скрыпты ды праграмы, кірылічныя шрыфты і іншыя матэрыялы.

Найбольшым недахопам гэтага вельмі карыснага для азнаямлення з нюансамі беларускага правапісу сайта з'яўляецца яго запушчанасць — навіны не абнаўляюцца ўжо сем гадоў. Паўстае натуральнае пытанне: якім жа чынам і дзеля чаго нехта падтрымлівае ўсе гэтыя гады яго існаванне? Прамога адказу на яго мы не знойдзем. Але, перафразуючы словы паэта, калі гэта нехта робіць, значыць гэта камусьці патрэбна.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

# БЕЛАРУСІ Скарбы

Суседская Сувальшчына

Для насельнікаў Гарадзеншчыны найбольш блізкімі і зразумелымі з'яўляюцца сумежныя Бельская, Гайнаўская ці Сакольская землі. Па абодва бакі нямала сваяцкіх сувязей і падабенства, беларуская вясковая і мястэчковая культура. Таксама суседская Сувальшчына з'яўляецца куды больш загадкавай і таямнічай. Гісторыя гэтай зямлі мае багата старажытных загадак і гістарычных перапляценняў. Некалі на гэтых землях жыло магутнае племя яцвягаў. Этнагенез тут быў настолькі складаны, што нават самыя дасведчаныя навукоўцы не могуць прадставіць больш-менш пераканаўчай карціны змешвання і паходжання мясцовых насельнікаў. Сувальшчына і сёння досыць стракатая як у нацыянальным, так і ў канфесійным плане. Тут можна сустрэць самых розных прадстаўнікоў хрысціянскай рэлігіі, у тым ліку і стараверу. Няма важкіх падстаў залічаць гэтую зямлю ў беларускія скарбы, але яна захавала столькі традыцый, уласцівых некалі і нашым землям, што з'яўляецца для нас прыкладам захавання гістарычнай спадчыны, узорам аховы і шанавання падоранай Богам прыроды. А кожнаму асобнаму чалавеку належыць увесь свет, калі ён любіць вандраваць, шануе сваё і з павагай ставіцца да суседняга.

Сувальшчына надзвычай багатая сваімі прыроднымі скарбамі, раслiннай і ландшафтнай разнастайнасцю, а таксама рэгіянальнымі культурнымі асаблівасцямі. Асабіста мне пашчасціла правесці ў гэтым рэгіёне разам з сябрамі некалькі падарожных сезонаў. Навакольныя мясціны і населеныя пункты найлепей спазнаваць вандруючы на роварах і байдарцы. Каб наведаць і паглядзець усё цікавае, патрэбна шмат часу. Аднак, можна распрацаваць адмысловы маршрут, які дазволіць убачыць прынамсі найбольшыя адметнасці. Сувальшчыну можна параўноўваць з беларускай Астравеччынай, але яна адрозніваецца ў лепшы бок у плане развітасці і разгалінаванасці турыстычнай інфраструктуры. Адных аграсядзіб у гэтым рэгіёне налічваецца ўжо соткі, больш, чым ва ўсёй Беларусі.

Найбольшым гістарычным цэнтрам рэгіёна з'яўляецца Аўгустаў, горад, у атачэнні цудоўных азёр Распуда, Белае, Нэцка. Тут жа працякае знакаміты Аўгустоўскі канал, шлюзы якога прапускаюць штодзень сотні турыстаў. У самім горадзе знакамітая рэстаўрацыя „Альбатрос”, дзе нарадзілася папулярная польская песня, багата розных дзіцячых пляцовак і ўтульных кавярняў. У летні сезон тут адбываецца асабліва шмат розных імпрэз.

Унікальным архітэктурным ансамблем з'яўляецца камедульскі кляштар у Віграх, збудаваны пасярод дзівоснай акваторыі аднайменнага возера. Некалі тут спыняўся папа Ян Павел II, пра што сведчаць адмысловыя музейныя пакоі кляштарнага гатэля. Адмысловы санктуарый створаны ў Студзянічнай, дзе прыпыняўся пантыфік. Асаблівым горадам з'яўляюцца Сейны, асноўная візітоўка якіх — Белая сінагога, сёння мультыкультурны асяродак, дзе праходзяць выставы і канцэрты. Вандруючы па Сувальшчыне, абавязкова трэба наведаць „мясцовую Фудзіяму” — так званую Цісовую гару, якая мае вышыню 256 метраў над роўнем мора. З яе адкрываецца маляўнічы даляглд на раку Шэшупу і навакольныя азёры. Уразяць падарожніка і Станьчыкі, дзе можна пабачыць нядзейсны зараз высачэзны чыгуначны мост, па якім да вайны хадзілі цягнікі.

Рачкі і Філіпаў, Штабін і Краснагруда, Бакалажэва і Рутка-Тартак, Бержнікі і Пуньск — усюды вы сустрэнеце цікавыя помнікі, адметнасці і зычлівых мясцовых жыхароў. Сувальшчына абуджае найлепшыя пачуцці і праз мясцовае адкрываe для кожнага часам забытае сваё.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Святкаванні ў Седльцах

31 ліпеня жыхары Седльцаў адзначылі 68-ю гадавіну вызвалення горада і павета ад гітлераўскай акупацыі салдатамі 1 Беларускага фронту ды партызанаў, м.інш. з Арміі краёвай, Сялянскіх батальёнаў і Арміі людовай. На польскіх і савецкіх ваенных магілках былі ўстаноўлены ганаровыя варты. Побач помнікаў сталі жаўнеры з сядлецкай часці і гарцэрская моладзь. Кветкі ўсклалі м.інш. дэпутат Сейма Станіслава Пшондка (СЛД), віцэ-прэзідэнт Седльцаў Яраслаў Главацкі, віцэ-староста Сядлецкага павета Юзэфа Рыхлік. Прысутнічалі прадстаўнікі пасольства Беларусі: паверанеы ў справах Андрэй Лазавік і прэс-сакратар Аляксей Зелянко. На польскіх ваенных могілках малітву за памерлых адправіў кс. палк. Анджэй Дзявульскі. А настаяцель праваслаўнага прыхода а. Славамір Кохан адслужыў паніхіду на могілках чырвонаармейцаў.

У ходзе святкаванняў старшыня Павятовай рады ветэранаў Рышард Хранюк адзначыў, што пра нашу гісторыю гаварыць магілы. І таму нельга забываць пра тых, якія ахвяравалі сваё жыццё за нашу будучыню.

— Гэтыя магілы і крыжы, — гаварыў Рышард Хранюк, — затуліл праўду пра геройскае змаганне польскіх жаўнераў і салдатаў 1 Беларускага фронту за вызваленне Седльцаў. Стаім на месцы спачыну тых, якія аддалі жыццё за Польшчу, выконваючы свой вялікі і свяшчэнны абавязак перад Айчынай.

У сваю чаргу Андрэй Лазавік сказаў:

— За перамогу расплаціліся мы высокай цаной, але памяць пра тых, якія загінулі ў змаганнях за вызваленне гарадоў і сёл ад фашысцкіх захопнікаў назаўсёды астанецца ў нашых сэрцах. Сёння ўшаноўваем жаўнераў, якія загінулі на польскай зямлі, у тым і ў Седльцах. Схіляем галовы перад іхняй адвагай і гераізмам, іх баявымі подзвігамі, іх змаганнем за мір і чыстае неба, за свабоду і незалежнасць нашых краін. Мы шчыра ўдзячны ўладам і жыхарам Седльцаў за захаванне і ўшанаванне памяці пра тых, якія заплацілі сваім жыццём за нашу будучыню.

Урачыстасці ў гадавіну вызвалення Седльцаў з'яўляюцца галоўным чынам падзякай тым, якія змагаліся за вольную Польшчу, калі на гэтай зямлі лютаваў нацысцкі тэрор. Запар гэта таксама навука не паддавацца зменлівасцям лёсу. Каб заўсёды змагацца за найважнейшае — за свабоду, незалежнасць, чалавечую годнасць. Для Седльцаў дзень 31 ліпеня радасны, бо гэта дзень перамогі.

Адам БОБРЫК

# Экзатычная сустрэча

Маленькі Шымон апераззаўся жывым, плямістым удавам як сапраўдным слуцкім паясом. Яго сябра Мацей уважліва прыглядаўся гэтаму, амаль цыркаваму відовішчу. Дагэтуль трапічную прыроду ён бачыў толькі на малюнках у кніжках і на тэлеканале Дыскавеы. Дзякуючы летнім дзіцячым сустрэчам,ладжаным Аб'яднаннем у карысць інвалідаў і сацыяльна выключаных „Драбіна", крынскія дзеці змаглі ўжывую дакрануцца і бліжэй пазнаёміцца з фаўнай далёкіх краін. Цёплалюбівыя жывёлкі чакалі дзяцей на пляцоўцы крынскай публічнай бібліятэкі. Прывезлі іх сюды прыватныя калекцыянеры і фанаты свету трапічных рэптылій Яраслаў Чэчка з Саколкі і Дар'юш Рашкевіч з Беластока. Паўзуны нарадзіліся ў няволі і ніколі не прыйшлося ім пабываць на зямлі сваіх продкаў, затое паспелі ўжо наведаць многія адукацыйныя ўстановы Сакольшчыны і Беластока. Перад дзяцьмі запрэзентаваліся яны ўпершыню. Сярод немалой экзатычнай кампаніі апынуліся стэпавы варан, скарпіён, кракадзілавы кайман, удаў, маісавы полаз, каралеўскі пітон, барадатыя агамы і калючы афрыканскі вожык. Апрача скарпіёна, які сядзеў сумны ў празрыстай каробцы, усе звяркі адразу наладзілі блізкія кантакты з дзяцьмі. Даспадобы былі ім гульні ў зялёнай траве і адпачынак у далікатных, дзіцячых далонях. Нашчадкі заморскіх паўзуноў гавораць на асаблівай, не кожнаму зразумелай мове. Без праблемы кантактуе з імі спадар Дар'юш. Вось што расказаў ён пра сваіх падапечных:

Фота ЦАЛІНЫ БАХ-ШЧАВІНСКАЙ

— Стэпавы варан любіць кампанію. Калі да яго цэлы дзень не заглянеш, не пагаворыш, то зараз абражаецца. Але і на гэта ёсць лякарства. Дастаткова ўключыць яму радыёпрыёмнік і ўся злосць адыходзіць. У рэптылій выдатная памяць. Таму, калі іх пакрыўдзіць, могуць стаць небяспечнымі. Яны, як і людзі, маюць свае лепшыя і горшыя дні. Калі варан пачынае шыпець, гэта значыць, што патрабуе пабыць сам.

Падапечныя спадара Дар'юша вылучаюцца асабліва пазітыўным стаўленнем да дзяцей. Ягоная паўтарагадовая дачушка найбольш любіць гуляць з вужамі, нават пальцы ім у рот пхае і плача, калі ёй забіраюць вужа.

Вужы — цікавыя істоты. Не маюць ног, а ходзяць, не маюць рук, а ядуць. Без ежы і паўтара года абыдуцца. Спадар Дар'юш корміць іх раз, часам два разы на месяц. Не прападаюць яны за садавінай ці агароднінай, затое ахвотна глытаюць канкрэтныя „стравы". Маленькі вуж задаволіца мышкай, вялікі хапне пацука ці зайца. Бывае што і з рагамі ды капытамі справіцца. Калі „страва" сядзе на камень, то і з каменем яе праглыне. Да таго за адзін раз можа праглынуць порцыю ў пяць разоў перавышаючую шырыню яго галавы.

Цяжка было расставацца ўдзельнікам летніх сустрэч з экзатычнымі сябрамі. Неўзабаве чакаюць іх новыя, летнія атракцыёны.

Іаанна ЧАБАН

# Адгаданка

## Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — нямецкую пагаворку.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 |

1. тоўсты жалезны крук для выграбання попелу = 1 _ 2 _ 15 _ 16 _ 17 _ 11 _ 14 _;
2. кінематаграфія = 33 _ 32 _ 31 _ 4 _;
3. вадкасць з гемаглабінам = 22 _ 9 _ 29 _ 30 _;
4. парадак, грамадская сістэма = 3 _ 6 _ 5 _;
5. віленская залатоўка = 26 _ 27 _ 28 _;
6. горнае ўзвышша аднароднай геалагічнай будовы з плоскай вяршыняй = 24 _ 25 _ 21 _ 23 _ 20 _;
7. рух электрычнага зараду ў праваднiку= 18 _ 19 _ 7 _;
8. між этай і ётай = 10 _ 12 _ 13 _ 8 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 30 нумара**

Каяловіч, кум, Адам, Талейран, Кебіч, Харватыя.

Рашэнне: **Якая мука такі хлеб**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 26.08 — 01.09

**(22.03. — 20.04.)** 26-28.08. зоркі памогуць табе рэалізаваць мары; услухайся ў інтуіцыю і рабі тое што падказвае табе сэрца. Поўня Месяца (31.08.) — у ненайлепшы момант, каб змагацца за сваё (можа перамагчы канкурэнцыя). Пазбягай фізічнай напругі і не рабі больш чым трэба. У пятніцу для цябе і тваіх блізкіх адкрыюцца добрыя перспектывы.

**(21.04. — 21.05.)** Можаш дазволіць сабе на больш. Вернуцца твае жыццярадаснасць, жвавасць, энергія і добры настрой. Ды не пазычай ані ў банку, ані ў знаёмых, хутчэй пашукай сабе дадатковай працы. Рыхтуйся да сустрэч з новымі людзьмі; сам будзеш у цэнтры ўвагі. Можаш цяпер зарабіць на сваіх ведах, кампетэнтнасці і вопыце; не карыстайся чужымі задумамі.

**(22.05. — 22.06.)** 26-31.08. магчымыя непаразуменні; пазбягай размоў аб працы, у пытаннях здароўя не райся ў калег. Цяпер у тваім жыцці пачынаецца пад'ём. Бурны час, мора эмоцый, праўда, не заўжды добрых. Турбаваць цябе могуць неспакойныя сны, і, што горш, папсавацца можа здароўе. Адпачывай як найбольш!

**(23.06. — 23.07.)** Удалыя падарожжы і знаёмствы. Магчымы немалы поспех у розных службовых аперацыях. Тыдзень спрыяе каханню і рамантычным сустрэчам. У чацвер важныя перамены, ды магчымыя непрыемныя весткі. У пятніцу пазбудзься непатрэбшчыны.

**(24.07. — 23.08.)** Можаш добра парабіць парадкі. Возьмешся і за амбітныя заданні. З усім дасканала справішся сам і памажаш іншым. Ды не пазычай грошай усім хто ў цябе іх папросіць. Цяпер прыцягваеш усё што захочаш. Расплаціся з крэдыторамі ў пятніцу.

**(24.08. — 23.09.)** Не паддавайся хандры! З некаторымі прыкрымі рэчамі трэба будзе пагадзіцца. Тыдзень досыць неспакойны, можа прынесці праблемы ў кантактаванні. Будуць цябе прабаваць яшчэ і вывесці з раўнавагі! Трымайся здалёк ад непрыемных табе людзей. У аўторак дасць аб сабе знаць стары канфлікт.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш старацца выклікаць уражанне (дасць гэта добры вынік у будучыні). Добры час для новых ведаў, умеласцей, свежага вопыту. Пад канец тыдня атрымаеш ганарар. Добры час для пошукаў работы. У сераду ты акажашся на вышыні!

**(24.10. — 22.11.)** Дзякуючы адвазе і хуткасці можаш стаць пераможцам. Лёгка дагаворышся з сябрамі. Не будзеш саромецца выяўляць свае пачуцці. Можаш іграць у латарэю, толькі невялікімі сумамі; трактуй гэта больш як гульню. Фінансава ты цяпер не вельмі стабільны. У кіно ідзі на камедыю!

**(23.11. — 22.12.)** Поўня Месяца (31.08.) можа прынесці табе турботы на працы і непаразуменні дома. Могуць цябе чакаць сюрпрызы з боку прафесійных партнёраў. Не рассакрэчвай сваіх планаў. Капітал можаш укласці ў зямлю ці нерухомасць. У сераду заключай любыя дагаворы. На чацвер не назначай важных сустрэч.

**(23.12. — 20.01.)** Крыху нервовы тыдзень. Быццам бы нічога благога не будзе, ды добра не адпачнеш ці не выспішся. Не аб'ядайся нанач, праветрывай спальню. Затое будзеш вельмі дасціпны, а інтэлігентныя прыёмы палагодзяць кожную гарачую справу. Ды лепш не паяўляйся на вялікіх масавых мерапрыемствах.

**(21.01. — 19.02.)** Ажывяцца твае працаўнікі, ды іхнія плёткі і інтрыгі табе не зашкодзяць, а нават наадварот — абернуцца супраць іх саміх, а ты выйдзеш на сумленную і вартую даверу асобу. Нічога не страціш, а здабудзеш тое, што табе здаўна належыцца. Купі сабе штосьці добрага сорту, нятаннае. Пятніца добрая для шлюбу.

**(20.02. — 21.03.)** Будзеш адважны і перакана́ўчы. Добра будзеш ведаць, чаго табе трэба. Асабліва прыемная першая палова тыдня. У сераду заплануй сустрэчы з чыноўнікамі, асабліва з кантролю. У суботу сустрэнешся са старэйшымі сямейнікамі. 31 жніўня твая хімерычнасць можа адхіліць ад цябе шмат людзей. Дбай аб сэрца і дыхальныя шляхі.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH" i „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

# Фэст асірочанай беларушчыны



**Канчаецца летні сезон фэстаў і іншага роду канікульных пленэрных беларускіх мерапрыемстваў. У ўік-энд папярэджваючы Свята Войска Польскага шматлікім жыхарам Беласточчыны цяжка было рашыцца, ці паехаць на „Спасаўскія запусты" ў Бельск-Падляшскі, ці на фэсты ў Чаромху або ў Дубічы-Царкоўныя, а, можа, у Саколку. „Ніва" выбралася між іншым якраз у Саколку, у наваколлі якой штораз радзей можна пачуць беларускую — сваю мову — і, як здаецца — ужо там няма лакальных калектываў, захоўваючых беларускую мову і культуру.**

Рэгіянальны фестываль, як яго назвалі, перад кінатэатрам „Сокул" тутэйшы Асяродак культуры сарганізаваў ужо ў чацвёрты раз. Былі конкурсы на варэнікі і настойкі, шмат забаў для маладых і іх бацькоў, у якіх мы прыкмецілі ахвотна гуляючага бурмістра Саколкі Станіслава Малахвея, апранутага па-спартыўнаму. Гавэнды аб варэніках і мясцовых кулінарных традыцыях агучваў Андрэй Федарук, аўтар кніжак пра падляшскую кухню. З назвы была гэта беларуска-польская імпрэза, хаця ў час канцэрта рашуча пераважалі беларускія калектывы: з Козлікаў, Нарвы, Беластока і Мінска. На завяршэнне імпрэзы выступіла зорка фэсту — калектыў „Прымакі".

— Адкуль задума польска-беларускай імпрэзы? Мы ўсе тут мяшаемся. Ад вякоў мы адны з аднымі блізка. Гэта трэба паказваць і захоўваць. Гэтае мерапрыемства паказвае, як супер функцыянуе ад шмат гадоў супрацоўніцтва нашага асяродка з Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Канцэрты з удзелам беларускіх калектываў адбываюцца часцей, не толькі на рэгіянальным фэсце, а, напрыклад, на Днях Саколкі. На жаль, у самай Сакольскай гміне не маем беларускага калектыву, ды ахвотна іх гасцюем з іншых гмін. Мабыць, такі беларускі калектыў у нас яшчэ ўзнікне, — пераконвала нас Агнешка Казакевіч з Сакольскага асяродка культуры.

Лакальныя фэсты гэта часта нагода для прамоцыі гмін, у якіх яны арганізуюцца. Вядомы выкарыстоўваннем такіх нагод войт Гарадка Веслаў Кулеша заўжды адзначае, якія новыя інвестыцыі ўдаецца рэалізаваць і якія вялікія еўрасаюзныя грошы можна здабыць. „Ніве" хваліўся бурмістр Малахвей:

— У нас далёка наперад пайшлі працы па пабудове спартыўнай залы пры Пачатковай школе № 2. Сёлета важнай інвестыцыяй з'яўляецца тэрмаізаляцыя будынкаў трох школ. Пачалі мы рэвіталізацыю цэнтра Саколкі і далей будзем яе працягваць.

Бурмістр лучыў вялікія спадзяванні з прадбачванным увядзеннем малога памежнага руху паміж Польшчай і Беларуссю, які ахапіў бы таксама Саколку. Адпаведная дамова надалей чакае подпісу Аляксандра Лукашэнкі:

— Скажам, ну што ж: палітыка ўзяла верх, але і так у Саколку прыязджае шмат асоб з таго боку на падставе віз. Даяжджаю ў Саколку ад Кузніцы і бачу, як аўтамашыны на беларускай рэгістрацыі шматліка стаяць пад „Tesco". Шкада аднак, што няма малога памежнага руху. Будзем чакаць.

У час фэсту, непадалёк ад глядзельных месцаў, можна было пачаставацца знакамітымі варэнікамі (у сярэднім былі яны памерам 11 x 6 сантыметраў), якія варыла Гражына Занеўская з Малявіч-Верхніх, што вядзе агратурыстычную гаспадарку, у якой апроч вырабу варэнікаў выпякаецца таксама ўласны хлеб, здабыўшы „Падляшскі брэнд года". „Ніве" пані Гражына прызналася:

— Сакрэт добрых варэнікаў хаваецца ў сэрцы гаспадыні. А сур'ёзна: мусяць быць добрая мука, гарачая вада, крышку алею і шчопаць солі. Паводле мяне, найлепшая начынка гэта грыбы і белае мяса.



Ансамбль „Белы птах" з Мінска



Гражына Занеўская прываблівала агромнымі варэнікамі з мясам

Андрэй Федарук распавядаў у размове з намі:

— Кажуць, што варэнікі сюды прывезлі татары. Ёсць, аднак, іншая тэорыя, што гэта заслуга армян. А калдуны — літоўская традыцыя. У сваю чаргу пяльмені гэта не беларуская традыцыя, ці нават у шырокім разуменні руская, а якраз сібірская. Робяць іх там тысячамі і замарожваюць. А ў нас гэта не варэнікі, а бульба ўратавала кухню.

Госцем з Беларусі на сакольскай імпрэзе быў ансамбль „Белы птах", які дзейнічае пры Мінскім трактарным заводзе. Яго кіраўнік Вольга Жышкевіч расказвала перад выступленнем:

— Дзейнічаем ад 2007 года. У нашым ансамблі кожны спявае і танцуе. Сябры ў калектыве кончылі ўніверсітэт культуры, дык у кожнага з іх музычная адукацыя. Імкнемся да прафесійнай творчасці. У рэпертуары ёсць у нас беларускія, але і рускія народныя песні. Спяваем песні вядомых беларускіх кампазітараў, у стылізаванай апрацоўцы. Гэта ёсць гэтак званы стылізаваны фальклор. У Беларусі спяваем на розных гарадскіх і рэгіянальных канцэртах, але і на меншых, скажам, на галіновых выстаўках, у якіх удзельнічае Мінскі трактары завод. Творчы чалавек заўжды знойдзе месца, дзе можа паказаць свае дасягненні. Стараемся, каб да народнай музыкі пераканаўся нават найбольшы скептык адносна такога роду творчасці.

Разам з „Белым птахам" у Саколцы і на наступны дзень на фэсце ў Дубічах-Царкоўных паявіўся Уладзімір Кірута, дырэктар Палаца культуры Мінскага трактарнага завода:

— Ансамбль „Белы птах" не першы раз на Беласточчыне. Прыязджаем сюды як да найлепшых сяброў. Адчуваем тут сябе як дома. З вялікай радасцю сюды вернемся і я ўжо запрасіў вашыя калектывы, каб прыехалі да нас.

На сакольскім фэсце ў складзе арганізатараў прысутнічаў Эдуард Швайко, нованазначаны дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі (КЦБ) пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве. Пры нагодзе паразмаўлялі мы пра планы Цэнтра.

— Плануем развіваць новыя формы працы, якія, разлічваем, будуць больш актыўнымі і разнастайнымі. У цэнтральным і іншых рэгіёнах Польшчы прадбачваем пашырыць праекты акадэмічнага характару, а таксама скіраваць увагу на падтрымку і развіццё традыцыйных мерапрыемстваў з удзелам беларускага боку. Будзем таксама падтрымліваць культурнае супрацоўніцтва паміж беларускімі і польскімі рэгіёнамі.

Застанецца ў цэнтры нашай увагі і Падляшша, адкуль Культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы распачаў сваю працу. Важнымі застануцца для нас мерапрыемствы беларускага аматарскага культурнага руху на Беласточчыне, якія — як мы прыкмецілі — пашыраюць сваю форму і абшар дзеяння. Прыкладам з'яўляецца „Прымацкая бяседа" ў Міхалове ці фэст у Саколцы.

Дырэктар Швайко адзначыў:

— У падтрымцы імпрэз на Беласточчыне надалей будзем прымаць пад увагу якасць мерапрыемстваў. Добрым прыкладам захавання традыцый беларусаў на Падляшшы з'яўляецца штогадовы Фестываль беларускай песні. Фестываль спрыяе развіццю аматарскіх калектываў, падкрэслівае багацце культуры і духоўнуе разнастайнасць творчага асяроддзя беларусаў Падляшша. Будзем надалей спрыяць арганізацыі фестываляў і іншых імпрэз праз накіраванне да ўдзелу ў іх найлепшых калектываў з Беларусі.

І дадаў:

— КЦБ у Варшаве адкрыты для шырокага супрацоўніцтва і дыялогу. Культурныя ўстановы і іншыя арганізацыі ў Польшчы са сваімі праектамі могуць разлічваць на нашу падтрымку. Выставы, рознага кшталту майстар-класы, праекты накіраваныя на моладзевыя кантакты ў сферы культуры, супрацоўніцтва навучальных устаноў і г.д. — формы такога супрацоўніцтва могуць быць самыя розныя.

У параўнанні з іншымі падобнымі фэстамі ў Саколцы не было тлумаў. Некалькі раз прабавалі мы зачапіць сустрэтых гледачоў па-беларуску. Ніхто не даў згоды на адказ. Дзве пані затое прызналіся:

— У нас на некаторых вёсках дык гаворыцца па-свойму. Кожны кожнага зразумее. Ды так, каб загаварыць, дык ужо не, хутчэй па-польску. Мы каталічкі. О так прыйшлі паглядзець. Па-беларуску, не па-беларуску — усё ж нейкая „разрыўка" ёсць у суботу папоўдні.

Валянціна Ласкевіч з Галоўнага праўлення БГКТ (дбала аб спраўны ход імпрэзы), у якой мы спыталіся, чаму няма на Сакольшчыне — як сцвярджае Агнешка Казакевіч з дома культуры — ніякага беларускага калектыву (да нядаўна быў яшчэ ў Грабянях), адказала:

— Гэта іншая гісторыя, доўга тут расказваць.

ISSN 0546-1960